

Пікнік з беларусам→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Каб спявала душа→9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 26 (3137) Год LXI Беласток, 26 чэрвеня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# XXX Сустрэчы „Зоркі"

**Перш за ўсё было вельмі прыемна, творча, ласкава. Мы ўсе былі крыху здзіўленыя і засыпаныя тэкстамі, якія паўставалі ў час майстар-класаў. Я не думала, што ў народзе існуе такая празаічная і паэтычная страсць, такая патрэба пісання, друку, быць заўважаным. На мінулым тыдні адбыўся юбілейны, 30-ты культавы летнік для моладзі, якая вывучае беларускую мову — Сустрэчы „Зоркі". Іх апісаць немагчыма. Сапраўды, там трэба было проста быць!**



Пасля сустрэчы з былой рэдактар „Зоркі" Янінай Чарнякевіч, побач Ганна Кандрацюк.

Аб узнагародах, адзнаках і аб вобразе, які быў створаны з цэласці напісаных на працягу тыдня тэкстаў, з прызнаннем у час падвядзення вынікаў Сустрэч „Зоркі" выказалася арганізатарка і ініцыятарка майстар-класаў Ганна Кандрацюк-Свярубская:

— Я атрымала вялікую асалоду ад чытання вашых газетак, — сказала на завяршальнай сустрэчы рэдактарка „Зоркі". — Хачу сказаць, што ніколі раней не было такой зладжанай, такой творчай, працавітай групы.

Групу складалі маладыя беларусы, лепшыя вучні школ, якія вызначаліся таксама актыўнасцю ў культурным і грамадскім жыцці. Звяртае ўвагу той фактар, што хаця моладзь дакладна ведае аб тым, што на працягу тыдня чакае іх напружаная праца, з ахвотай прыязджае на летнік. „Зорка" выбірае самых актыўных пасля ранейшай кансультацыі з настаўніцамі, якія найлепш ведаюць сваіх вучняў. Тыя падкрэслівалі, што прысутнасць на Сустрэчах „Зоркі" гэта форма ўзнагароды, прызнання заслуг і заахвочвання вучняў да далейшай працы. Як рассакрэціла адна з настаўніц, былі нават такія сітуацыі, што дзеці сварыліся між сабою за тое, хто мае ўдзельнічаць у Сустрэчах. Таму не будзе перабольшаннем меркаванне, што менавіта Сустрэчы „Зоркі" надаюць заняткам беларускай мовы прэстыжнасць.

На працягу тыдня моладзь стварыла жывы вобраз таго, чым жыве беларуская меншасць, чым жыве моладзь. Яны апісвалі падрыхтаваныя раней сустрэчы са знакавымі постацямі беларускага асяроддзя, але таксама апісвалі сустраканыя на кожным кроку розныя гісторыі. Пераказваныя з вуснаў у вусны, з аднаго канца горада ў другі канец вёскі з'яўляюцца тым, што робіць жыццё яшчэ больш захапляльным. Аднак не ўсе настолькі ўражлівыя і таленавітыя, каб гэтыя ўсе захапляльныя гісторыі злавіць і надаць ім адпаведную форму. Не кожны ўмее пранізліва глядзець на акружаючы нас свет, каб пазней пабудаваць з гэтага апавяданне. Для гэтага патрэбны талент і жаданне ствараць выдатныя тэксты. Пісанне з'яўляецца прывілеяй выдатных асоб. Несумненна, да такіх людзей можна залічыць удзельнікаў 30-тых Сустрэч „Зоркі". Кожны са створаных тэкстаў мае свой характар. Дзякуючы ім пазнаем не толькі свет, думкі і жыццё маладых аўтараў, але таксама лепш пачынаем разумець самі сябе. Такая выснова выцякала з сустрэчы з галоўным рэдактарам „Нівы" Яўгенам Вапам, які, гартаючы самыя раннія дописы дзяцей на старонках „Зоркі", даказаў, што дзякуючы „Ніве" маладыя пісьменнікі-энтузіясты маюць непаўторную магчымасць канфрантацыі з чытачом. А гэта для кожнага аўтара вельмі важны момант.



Фота Ганны Кандрацюк





Наогул сёлетні трыццаты выпуск быў прымеркаваны да юбілею 60-годдзя „Нівы". Таму на летніку з'явілася шмат яркіх постацей, звязаных з тыднёвікам, такіх як былая рэдактарка „Зоркі" Яніна Чарнякевіч, вышэйзгаданы рэдактар „Нівы" Яўген Вапа, моваznаўца і шматгадовы рэдактар Віталь Луба, паэтэса Міра Лукша ці радыёжурналіст Мішка Сцепанюк — доказ таго, як Сустрэчы „Зоркі" развіваюць творчае захапленне і цікавасць да журналістыкі.

Я ўпэўненая, што пра ўдзельнікаў Сустрэч „Зоркі" яшчэ пачуем. Шмат са створаных імі тэкстаў былі вельмі кранальнымі — аўтары ставілі перад сабой цяжкія пытанні пра тоеснасць, мелі адвагу паказаць сваю ўражлівасць, якая, магчыма, не адпавядае часам, у якіх жывем. Сустрэчы „Зоркі" даказалі, што на Падляшшы, сярод маладых беларусаў, шмат здольнай моладзі. Прысутнасць на Сустрэчах для пачаткоўцаў — выдатная магчымасць праверыць уяўленні аб таленце, пісьменніцкіх здольнасцях і ўменні практычна выкарыстаць мову з меркаваннямі аўтарытэтаў, у першую чаргу шмат гадоў, звязанай з летнікамі выдатнай педагог і настаўніцы Валянціны Бабулевіч.

Несумненна, тэксты ўцягвалі нас у іншы свет, чаравалі. У час Сустрэч „Зоркі" паўстала шмат тэкстаў і вершаў — кранальных, вынаходлівых, здольных скарыць чытача. Спадзяюся, што аўтары не збянтэжацца, што будуць далей пісаць і чытаць, каб дабрацца да месца, з якога ўсё найясней відаць. Віншую ўсіх, хто меў адвагу паказаць па-беларуску кусочак свайго свету.

Думаю, што варта намагацца, каб падтрымаць пісьменніцкі энтузіязм вельмі спецыфічнай групы аўтарак і аўтараў. А маю на ўвазе аўтаркі і аўтараў вельмі маладых, якія, дзякуючы старонкам „Зоркі", не расплывуцца ў канкурэнцыі са старэйшымі.

Хаця з удзельнікамі 30-тых Сустрэч „Зоркі" пазнаёміцеся ў бліжэйшых нумарах „Нівы". варта назваць загалоўкі сустрачанскіх газет і іх рэдактараў: „Зорнымі вачыма" — Вераніка Кардзюкевіч, „Парнасік" — Максім Фіёнік, „Зорны шлях" — Наталля Васько. Такім чынам моладзь пачала святкаванне ніўскага 60-гадовага юбілею.

«Сустрэчы Зоркі» прайшлі дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства унутраных спраў і адміністрацыі.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ





# Права на абарону

Чарговы масавы расстрэл людзей у начным клубе „Пульс" у горадзе Арланда з новай сілай абудзіў спрэчку, ці можна свабодна прадаваць зброю людзям.

Калісьці я ўжо выказваў свае думкі на гэтую тэму і не пачынаў бы яе зноў, каб не адна акалічнасць. Тады ў мяне была зброя, якую я легальна набыў у паляўнічай краме. Гэта было не так проста зрабіць, я вам скажу. У Беларусі надзвычай жорсткі кантроль за зброяй, як і ва ўсіх аўтарытарных і таталітарных краінах. Таму проста таго факту, што я паляўнічы, было мала. Трэба быў яшчэ дазвол з міліцыі, якая праверыла ўсё, што магла і не магла, не грэбуючы і размовамі з суседзямі. І каб хоць адзін з іх сказаў, што бачыў мяне ў стане агрэсіі або ап'яненнія, на дазволе можна было б паставіць вялікі крыж.

У той час у мяне яшчэ не было затрыманняў у міліцыю, пакаранняў за масавыя акцыі, судоў і адсідак ва ўтульных камерах, таму стрэльбу мне хоць і з вялікімі цяжкасцямі набыць усё ж удалося. Пашкадаваў я пра гэта ледзьве не адразу. Бо ў маё недатыкальнае жыллё сталі наведвацца прадстаўнікі міліцыі з праверкамі, задачай якіх было даведацца як там адчувае сябе мая стрэльба. Такой увагі і павагі як мая стрэльба хіба што не ведаў ні адзін грамадзянін у краіне. Ну, можа толькі адзін.

Стрэльба заўсёды была ў полі зроку адпаведных службаў. Ну, а як толькі мяне замялі перад нейкімі чарговымі выбарамі ў міліцыю, то стрэльбу адразу забралі на пэўны перыяд, пакуль я не стану лаяльным да ўлады грамадзянінам.

Лаяльным да ўлады я так і не стаў, таму вырашыў аддаць тую стрэльбу тым, хто прыкідваецца да той улады лаяльным. Затое зараз магу паразважаць на тэму легальнага продажу зброі ўжо ў іншым статусе. І хачу вам дакласці, што сваёй ранейшай думкі не змяніў. Яна палягае на тым, што зброя сама не забівае. Забівае чалавек. І чым забіць заўсёды знойдзе. А вось чалавек, які абараняецца, калі не мае дазволу на зброю, не заўсёды можа знайсці чым абараніцца.

Дарэчы, клуб „Пульс", дзе адбылася гэтая жудасная бойня, ёсць зонай, дзе нельга знаходзіцца са зброяй. Законапаслухмяныя наведвальнікі так і зрабілі. А вось каб хто з іх меў пісталет, то ахвяр было б значна менш. Іх увогуле магло б і не быць. Калі вы заўважылі, падобныя расстрэлы людзей адбываюцца менавіта ў такіх зонах, дзе ўваход са зброяй усім, акрамя забойцы, забаронены. Наўрад ці туды пайшоў бы злачынца, каб не ведаў, што там ніхто не стрэльне яму ў адказ. Аднаго толькі факту, што там дазволена зброя, магло б быць дастаткова.

Дарэчы, для параўнання. Я проста набраў у „гуглі" фразу „рэйтынг краін свету па ўзроўні наўмысных забойстваў" і адчыніў некалькі сайтаў, якім можна з большага даверць. Знайшоў нейкі рэйтынг празлічаны па методыцы ААН за 2013 год. Браў гэты год наўмысна, яшчэ да баявых дзеянняў на Украіне, каб вайна не ўносіла сваіх карэктываў. У графе „Узровень забойстваў" ЗША, дзе прадаюць зброю свабодна, мае 4,7 забойствы на 100 тысяч чалавек. У Беларусі ж гэтая лічба 5,1. Вось і думайце. Прыкладам, у Паўночнай Карэі, дзе татальны кантроль хіба што нават за цвікамі, лічба яшчэ большая — 5,2. У Расіі, з якой мы так пакутліва інтэгруемся і дзе таксама няма вольнага продажу зброі — 9,2.

Папраўдзе кажучы, я не зусім давяраю рэйтынгам. Я проста прывёў гэтыя лічбы, бо мае апаненты будуць вырываць з ілжэстатыстыкі патрэбныя ім дадзеныя, ды тыкаць імі. Таму я іх проста апярэдзіў, каб паказаць, што няма аніякай сувязі паміж свабодным продажам зброі і колькасцю забітых.

Затое ёсць іншая, і на гэты раз прамая сувязь. Усе таталітарныя рэжымы забараняюць зброю, каб прыгнечаныя народы не маглі абараняцца. Другая папраўка ў ЗША дазваляе вольнае набыццё зброі менавіта для таго, каб улада не змагла прыгнятаць свайго народа.

Таму не бойцеся Трампа, агрэсіўнасцю і непрадказальнасцю якого зараз палохаюць увесь свет. Ён, акурат, за зброю, якой яго народ мае права абараняцца, у тым ліку і ад яго, калі будзе такая патрэба. Бойцеся тых, хто забірае ў вас права на зброю. Бо гэта не адзінае права, якое яны ў вас забяруць пасля таго, як вы раззброіцеся.

Віктар САЗОНАЎ

# Два злоты за «цямноту»



Лежачы, аказваецца, можна ўбачыць больш, чым калі стаіш. А калі не больш, усё ж быццам іначай. Вылежаўся я нядаўна ў падляшскіх бальніцах. Я ляжаў у гайнаўскай, ляжаў у беластоцкай. Цяпер благое ліха занесла мяне ў бальніцу ў Аўгустове. Такім чынам, адсюль недалёка Сувалкі, але туды не выбіраюся. Прынамсі, спадзяюся на гэта. Гэта зусім не абазначае, што ў мяне дрэннае меркаванне аб сувальскім аб'екце. Дакладна адваротна. Аб медыка-санітарнай службе, а асабліва аб бальніцах, у мяне ўсё лепшае меркаванне. У гайнаўскай бальніцы я адчуваў сябе распешчаным ва ўсіх адносінах. І як пацыент, і як чалавек. Ва ўсякім выпадку, у рэйтынгу медыцынскіх устаноў у катэгорыі сярэдніх або павятовых бальніц яна займае адну з самых высокіх пазіцый у Польшчы. Не толькі з пункту гледжання вылечнасці ці высокай медыцынскай кампетэнтнасці ўсяго персаналу, але і гуманізму — у сапраўдным значэнні — падыходу да пацыента. Менавіта ў адпаведнасці з гэтай канцэпцыяй не нейкі ён безасабовы носьбіт хваробы, але перш за ўсё чалавек, пацярпелы ад няшчасця хваробы, якую трэба аб'ядданнем сіл лекараў, медсёстраў, пацыента і яго сям'і адужаць. Па аналогіі з тым, як ацэньваю бальніцы ў Гайнаўцы, Аўгустове і Беластоку, думаю, што і гэтая сувальская ім у нічым не ўступае. Тым больш, што пра Сувалкі намякнуў толькі таму, што некалькі дзён назад недалёка ад іх знойдзены зуб цмока. Дакладна, дыназаўра. Бубняць аб гэтым ва ўсіх сродках масавай інфармацыі. Усё ж некаторыя знаходкі выкапня незвычайныя. Па словах аднаго з парталаў, такіх спрыяльных для цяперашняга ўрада, што аж да падхалімства, гэта сенсацыя на ўвесь свет. Фактычна, месца знаходкі выкапня незвычайнае. Сённяшнюю Сувальшчыну ўфармаваў тысячы гадоў таму надыходзячы з поўначы ледавік, які дашчэнту перамалоў пад сваім жыватом артэфакты, пакінуты ў зямлі ад ранейшых часоў, калі засялялі яе тэрмафільныя дыназаўры. Проста ў пыл. І раптам, хоць бы дзічкі, выйшаў з дагістарычнага карыесу цэлы зуб аднаго з іх. Гэта дзіўнае, бо дзіўнае, але ж не немагчымае. Толькі што гэты партал зрабіў гэтую падзею не столькі навуковым, колькі палітычным пытаннем, амаль мяркуючы, што адкрыццё зуба з'яўляецца вынікам «добрых перамен». Таму што, як тлумачыцца ў інфармацыі, цяперашні ўрад не шкадуе грошай як для археалагічных даследаванняў у цэлым, так і для польскай навукі, што прывяло да адкрыцця гэтага зуба. Тут нагадаю, што археалагічнае месца, дзе ён быў знойдзены, ужо вядомае некалькі гадоў. Аж просіцца, каб зуб стаў дуба і ўзяў упрыкуску ўсіх падхалімаў. Вось, такое невуцтва-цемната.

Хтосьці мудры сказаў аднойчы, што падлдобрыванне з'яўляецца адметнай рысай... невукаў-«цемнякоў». Можа гэта не вельмі ясна, але ён гаварыў пра людзей з абмежаванымі магчымасцямі мозгу. Гэты орган мае вельмі шырокую сістэму крываносных сасудаў. Па разліках даследчыкаў, у агульнай складанасці налічвае каля 160 тысяч кіламетраў. Так! Хто хоча, няхай пашукае ў інтэрнэце, якую працягласць маюць усе цвёрдыя дарогі разам у Польшчы! Тымі крываноснымі сасудамі распаўсюджваецца кісларод, неабходны для спальвання глюкозы, якой сілкуюцца ўсе клеткі мозгу. Каб спаліць глюкозу, ён павінен прысвяціць гэтаму працэсу значную частку сваёй энергіі. Яна ацэньваецца ў 12,5 да 25 ватаў. Гэта столькі, колькі трэба, каб загарэўся ліхтарык. Невукі, нават калі б захацелі, не загарацца. У іх вычарпаныя мазгі. А калі свецяцца, дык толькі адбіваюць святло. Ад улады. А тая, у рэшце рэшт, што відаць і чуваць, не свецяцца добрым прыкладам. Ніякіх прыкладаў, аднак, не буду тут прыводзіць. Бо колькі ж можна! Дарэчы, калі камусьці іх не хапае, хай прагляне тэлевізійныя трансляцыі навін у грамадскіх тэлестанцыях. Я ўпэўнены, што для многіх будзе ясна, што на самой справе цёмнае.

Тэлевізары паўсюдныя ў нашым жыцці. Хапае іх і ў бальнічных палатах. У гайнаўскай вы можаце глядзець тэлевізар бясплатна ад ранку да ранку. Прытым бясплатна. У аўгустоўскай таксама, але за кожную гадзіну глядзення вам прыйдзецца заплаціць аўтамату 2 злоты. Цікавае, што большасць пацыентаў бальніцы ў Гайнаўцы аддавала перавагу навінам, якія пускала платнае публічнае тэлебачанне, а ў Аўгустове — тым, якія транслявалася камерцыйнымі станцыямі. Як правіла, яны бясплатныя. Але ў бальніцы платныя. Мабыць, гэта нейкі спосаб, каб паставіць гэтае пытанне выразна. Хочаш глядзець «цямноту», заплаці за яе два злоты.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Школьны ўспамін

На мінулым тыдні ўспамінамі павярнуўся я ў бок сваіх школьных гадоў. А ўсё дзякуючы дзвюм падзеям, у якіх прыйшлося мне ўдзельнічаць. Першая справа — трыццатыя Сустрэчы «Зоркі», арганізаваныя нашай рэдакцыйнай сяброўкай Ганнай Кандрацюк-Свярубскай; другая — удзел у сустрэчы выпускнікоў Пачатковай школы ў Арэшкаве і яе малога юбілею — 50-годдзя ўзвядзення будынка так званай «тысячагодкі». Тым, хто не ў курсе справы, паясняю, што тадышнія польскія ўлады кінулі лозунг «1000 школ на тысячагоддзе Польшчы — 966-1966». Абедзве падзеі былі для мяне асабістым, сентыментальным падарожжам у нашае, беларускае мінулае. На Сустрэчах «Зоркі» распавядаў я ўдзельнікам пра тое, чым жылі і пра што марылі іхнія аднагодкі ў пяцідзясятых, шасцідзясятых, сямідзясятых гадах мінулага стагоддзя на аснове іх допісаў у нашу рэдакцыю. Тут, зразумела, меўся на ўвазе і мой асабісты досвед школьніка пачатковай школы сямідзясятых гадоў.

Дзякуючы пісьмам маладых карэспандэнтаў, перада мною ўзнікла карта малых, вясковых школак, рассеяных па ўсіх куточках Беласточчыны. Тадышнія школы ў пераважнай большасці знаходзіліся ў найманых сялянскіх дамах. Марай дзяцей і іхніх бацькоў было пабудаваць сапраўдныя школьныя будынкі. У маім выпадку, пакуль я трапіў у школу ў Арэшкаве, паспеў павучыцца яшчэ ў сваім родным Доўгім Бродзе, а потым у суседнім Вітаве. Для маладога хлопца муравааная, двухпавярховая школа ў Арэшкаве явілася тады сапраўдным небачосам. У ваколіцы на фоне драўляных дамоў вылучалася яна сваёй адметнасцю ў параўнанні нават з суседняй царкоўкай. У школе была гімнастычная зала. Цяпер, вандруючы з сябрамі-аднагодкамі па школьным калідоры, нечакана мы заўважылі, што залы не былі надта вялікімі. А тады здаваліся нам аграмаднымі.

Ва ўсіх школах маёй пачатковай адукацыі вучылі беларускай мове. Таксама не менш важнымі былі беларускія школьныя пастаноўкі. Найчасцей ставілі іх пры нагодзе навагодняй ёлкі. Выступ перад бацькамі быў сапраўдным выклікам. Ну і, зразумелае, усе тады яшчэ паміж сабою размаўлялі па-свойму.

Так склалася, што з майго класа ўсе засталіся жыць на Беласточчыне. Маладошыя выпускнікі арэшкаўскай школы разбрыліся ўжо па Польшчы і Еўропе. Школа ў Арэшкаве мела заўсёды добрых настаўнікаў. Сапраўды, калі мы паступілі ў сярэднія школы, ніхто з нас не меў праблем з навукай, а прысвоеныя намі веды і разбуджаная цікавасць свету запаматалася да гэтых дзён. Блізкасць Гайнаўкі ад Арэшкава была хіба тым фактарам, што, нягледзячы на абязлюдзенне нашай тэрыторыі, арэшкаўская школа ператрывала да сённяшніх дзён. І, як непублічная, трымаецца на асветнай карце Гайнаўшчыны. Лёс іншых школ на беларускім арэале Падляшша не быў аж так ласкавым. Добра, што большасць з іх выконвае зараз ролю вясковых святліц. Некаторым аднак не пашчасцілася. Зруйнаваныя і апусцелыя школьныя будынкі з'яўляюцца сведкамі пераходу нашай меншасці з сялянскай стыхійнасці ў гарадскую.

Вандроўка ў маладосць і сустрэча з сябрамі прывяла мяне да адной вельмі цікавай высновы. Людзі вельмі моцна цікавяцца не толькі сваімі сямейнымі радаводамі, але і гістарычнай спадчынай сваіх мясцовасцей. Я ўжо дамовіўся на далейшыя сустрэчы з сябрамі і размовы пра іхнія гістарычныя пошукі. Размовы пра мінулае вялі мы ва ўтульным невялікім школьным музейчыку, які дзеткам паказвае, як жылі іхнія продкі.Таксама вельмі прыемна ўразіла мяне прадпрымальнасць маіх школьных сяброў. Некаторыя свой бізнес вядуць на суседняй Берасцейшчыне і рыхтуюцца нават да ўваходу на мінскі рынак. Пры нагодзе аказалася, што мае суразмоўцы проста не могуць зразумець, чаму Аляксандр Лукашэнка не хоча падпісаць дамовы аб малым памежным руху. Жадаючых наведаць Беларусь ёсць многа, аднак візавыя ўскладненні і кошты тармозяць натуральныя патрэбы і памкненні беларусаў Беласточчыны. Ну што ж, трэба спадзявацца, што ўсё ж такі змены адбудуцца і ў гэтым напрамку. У мае юнацкія гады пра магчымасць школьных паездак у Беларусь нават і марыць не прыходзілася.

Яўген ВАПА

# IV «Пікнік з беларусам»

У 2013 годзе пры Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы пачало дзейнічаць Аб'яднанне «Наша школа», якое гуртуе настаўнікаў і бацькоў вучняў гэтай школы. Старшыня аб'яднання, настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі, чатыры разы быў галоўным арганізатарам «Пікніка з беларусам» — культурнага мерапрыемства, падчас якога гучаць перш за ўсё беларускія песні, прэзентуюцца беларускія танцы, гавэнды і вершы ды паказваюцца тэатральныя пастаноўкі на беларускай мове. Сёлета, як і ў мінулых гадах, можна было з'есці каўбаскі смажаныя на грылі і атрымаць інфармацыю аб магчымасцях паступлення і ўмоў вучобы ў мясцовых белліцэі і белгімназіі. 10 чэрвеня выступленні адбыліся ў актавай зале школы, а на школьнай пляцоўцы, якая штодзень служыць аўтастаянкай, на грылі смажыліся каўбаскі і раздаваліся рэкламныя матэрыялы пра школу. Паслухаць беларускую музыку ды паглядзець танцы і пастаноўкі прыбылі вучні белліцэя, белгімназіі і іншых школ, бацькі і настаўнікі, а сярод запрошаных гасцей былі консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікола Камышык, начальнік аддзялення грамадскіх спраў Гайнаўскага старства Уладзімір Петручук, дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк і дырэктары некаторых гайнаўскіх прадшколляў і школ.


■ Адукацыйныя і рэкламныя матэрыялы прапанавалі вучаніцы белліцэя (на першым плане настаўнік Ян Карчэўскі і Магда Гаўрылюк)


■ Узорны ансамбль народнага танца «Крышталікі» з Бярозаўкі


■ Музычны калектыў Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы



■ Вучні Падставовай школы № 4 у Беластоку запрэзентавалі пастаноўку «Нататкі таткі»

— Пікнік накіраваны на прамоцыю белліцэя і белгімназіі. Перш за ўсё звяртаем увагу на беларускую мову, беларускую культуру і інтэграцыю школьнікаў. Побач членаў нашага аб'яднання «Пікнік з беларусам» дапамагаюць ладзіць члены школьнага самакіравання, настаўнікі і бацькі. На арганізаванне пікніка мы атрымалі сродкі з Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Гайнаўскага старства і Гайнаўскай гарадской управы, — сказаў Ян Карчэўскі — старшыня Аб'яднання «Наша школа», якое арганізуе таксама «Беларускую гавэнду», «Мастацкія сустрэчы школьнікаў» і сарганізавала рэйд па Белавежскай пушчы.

— Мерапрыемства «Пікнік з беларусам» арганізуем перш за ўсё для вучняў нашай і іншых школ. Ствараем ім нагоду паслухаць беларускую музыку, паглядзець выступленні і пазнаёміцца з атмасферай у нашай школе. Прыбылі таксама жыхары нашага горада, зацікаўленыя беларускай культурай, — сказала намеснік дырэктара Гайнаўскага белліцэя і белгімназіі Ніна Лукасік, якая сачыла за ходам мерапрыемства.

На школьнай аўтастаянцы адукацыйныя і рэкламныя матэрыялы прапанавалі вучаніцы белліцэя і сёлетняя выпускніца гэтай школы Магда Гаўрылюк.

— Настаўнік Ян Карчэўскі папрасіў мяне дапамагчы весці мерапрыемства і я згадзілася. Сёлетнім выпускнікам гімназій прапануем бланкі заявы аб прыёме ў наш белліцэй на вучобу. Раздаем рэкламныя матэрыялы аб нашай школе і лістоўкі, якія перасцерагаюць перад курэннем, піццём алкаголю і ўжываннем наркотыкаў. Аднак галоўным атракцыёнам пікніка будуць выступы на сцэне, — заявіла Магда Гаўрылюк, якая ў мінулых гадах таксама вяла «Пікнік з беларусам».


■ Беластоцкія вучні ў канцы пастаноўкі «Нататкі таткі» далікатна палівалі публіку вадой

У час чацвёртага выпуску беларускага пікніка выступілі дашкольнікі, вучні падставовых школ, гімназіі і белліцэя. Канцэрт даў калектыў «Крышталікі» з Беларусі. Дашкольнікі гайнаўскіх садкоў № 1 і 3 выступілі з цікавым беларускім рэпертуарам і захапілі сабраных сваёй шчырасцю. Тэатральны гурток «Гульня ў тэатр» Падставовай школы № 4 з Беластока запрэзентаваў пастаноўку «Нататкі таткі», падрыхтаваную на аснове кніжкі Андрэя Хадановіча і з музыкай Анны Бабік.

— Нам тут цікава пабываць. Файна было выступіць з нашай пастаноўкай. Гуляючы ў тэатр, мы становімся больш адважнымі і ўпэўненымі ў сваім жыцці, а таксама больш усміхаемся, — сказала Марыся Пякарская з беластоцкай школы, а яе сяброўка Сандра Скаўронская дабавіла, што ёй падабаецца атмасфера пікніка.

— Нашы вучні, якія займаюцца ў гуртку «Гульня ў тэатр», маюць нагоду выступіць перад гайнаўскай публікай і паглядзець выступленні равеснікаў. Ідэя пікніка цікавая, але ў мерапрыемства малыя магчымасці інтэграцыі, знаёмства з іншымі вучнямі, якія пасля выступаў застаюцца глядзець іншых выступоўцаў або разыходзяцца, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе № 4 у Беластоку і заадно апякун школьнага тэатральнага гуртка Аліна Ваўранюк.

Вучням з Гайнаўкі і Беластока смакавалі каўбаскі, якімі падмацоўваліся, слухаючы беларускую музыку і заадно спеў птушак. Пазней у актавай зале ўдала выступіў музычны калектыў Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы.

— Нашы вучні штогод выступаюць падчас «Мастацкіх сустрэч школьнікаў», якія ў Гайнаўскім белмузеі арганізуе Аб'яднанне «Наша школа». У нашым музычным калектыве спяваюць дзяўчаты з гімназіі і шостага класа падставовай школы. Акампанемент састаўляе ім Тамаш Дружба. Некаторыя нашы вучні рашаюцца працягваць вучобу ў белгімназіі. Іншыя вучні рашаюцца прадаўжаць вучобу ў нашай гімназіі і толькі пазней паступаюць у белліцэй. Хутка на Сустрэчы «Зоркі» паедуць нашы вучаніцы Эва Іванюк і Оля Буслоўская, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ № 3 Беата Кендысь.

Займальна выступіў калектыў «Знічка» з Гайнаўскага белліцэя, які ў бягучым школьным годзе быў грунтоўна аднаўлены і з папярэдняга складу засталося толькі некалькі асоб. Іх апякун Бажэна Вінцонак укамплектавала новы склад, які з мерапрыемства на мерапрыемства спявае штораз лепш.

— Я асабліва хвалявалася, калі спявала сола і тэлебачанне запісвала мяне на камеру, — заявіла Наталля Мусюк са «Знічкі».

Выступленне «Знічкі» прыйшоў паглядзець бацька Наталлі, настаўнік фізікі ў белліцэі Дар'юш Мусюк. З радасцю ўспамінаў, як яго белліцэісты, якія прымалі ўдзел у праекце «Зрабі стаўку на Сонца», занялі першае месца ў двух этапах агульнапольскага фільмавага конкурсу на тэму аднаўляльных крыніц энергіі.

— Нашы вучні выступаюць штогод падчас «Мастацкіх сустрэч школьнікаў», раней выступалі падчас пікніка, а сёння я прыйшла паглядзець выступленні іншых вучняў, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе № 3 у Гайнаўцы Марыя Крук. — У нашай школе значны адсотак дзяцей вучыцца беларускай мове і ў цяперашнім першым класе на 26 вучняў 16 дзетак бацькі запісалі на ўрокі беларускай мовы. Затое ў наступным школьным годзе не будзе ў нас першага класа, бо бацькі шасцігадовых дзетак пакінуць іх у садках.

Танцы запрэзентаваў Узорны ансамбль танца «Крышталікі» Палаца культуры Шклозавода «Нёман» з Бярозаўкі Гродзенскай вобласці, якога выступ спадабаўся публіцы.

— Наш узорны ансамбль народнага танца «Крышталікі» дзейнічае ўжо 20 гадоў. Танцуюць у нас дзеткі і моладзь ва ўзросце ад 6 да 16 гадоў. У Польшчы мы выступалі ўжо раней, а ў гайнаўскім ліцэі выступаем другі раз. Мы перш за ўсё прэзентуем апрацаваныя народныя танцы, але таксама ёсць у нас іншая праграма, — сказала Жана Лебядзевіч, мастацкі кіраўнік танцавальнага калектыву «Крышталікі». — Нам падабаецца пікнік, нас тут добра прымаюць. Трапілі мы ў Гайнаўку дзякуючы Культурнаму цэнтру Беларусі ў Варшаве.

— Мы любім танцаваць, спяваць і рады, што можам выступаць перад публікай у Беларусі і за мяжой. Тут нам падабаецца і прыемна было выступіць перад вашай публікай, — сказалі Карына Ермантовіч і яе сяброўкі.

— Прыгожа выступае калектыў з Беларусі. У мінулых гадах падчас пікніка і іншых нашых беларускіх мерапрыемстваў прэзентаваліся таксама іншыя танцавальныя і вакальныя калектывы з Беларусі. Наша моладзь выязджае на экскурсіі ў Беларусь. Добра было б наладзіць пастаяннае супрацоўніцтва з нейкай школай у Беларусі і тады нашы вучні маглі б ездзіць у Беларусь па запрашэнні школы з Беларусі, а беларуская моладзь прыязджала б да нас, — сказала Анна Хомчук, настаўніца англійскай мовы ў белліцэі і белгімназіі.

Апошнім перад публікай пікніка запрэзентаваўся калектыў «Давід Шымчук Бэнд», сёлетні лаўрэат фестывалю «Беларуская песня».

— Тут можна адпачыць, з'есці смачныя каўбаскі, а ў школьным будынку гучыць файная музыка, — сказала гайнаўская белліцэістка Дамініка Пуц.

У маёй прысутнасці каўбаскі смажылі на грылі настаўнікі, скарбнік Аб'яднання «Наша школа» Цэзары Шыкула і Агнешка Лапінская, якія паінфармавалі, што ёсць многа ахвотных з'есці каўбаскі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Дзень інваліда ў Нараўцы

11 мая гэтага года ў Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) пенсіянеры арганізавалі святкаванне Міжнароднага дня інваліда. Удзельнічалі ў ім сакратар гміны Міхал Бароўскі, радны і солтыс Новага Ляўкова Ян Целушэцкі, кіраўнічка Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі Альжбета Патонец, дырэктарка Гміннага асяродка культуры Галена Рэент, дырэктарка Комплексу школ у Нараўцы Марыя Леўша, кіраўнічка самаўрадавай бібліятэкі ў Нараўцы Анна Стульгіс і кіраўнічка святліцы ў Нараўцы Нэля Харкевіч.

Мерапрыемства вяла старшыня Раённага аддзела Польскага саюза пенсіянераў (ПСП) у Нараўцы Ядвіга Карпюк. Сабралася 35 чалавек з вёсак, між іншым, з Нараўкі, Гушчэвіны, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Лешукоў, Новін, Плянты, Стачка, Скупава.

Найперш была мастацкая частка пад загалоўкам „Чатыры поры года" ў выкананні вучняў трэцяга класа пачатковай школы ў Нараўцы пад кірункам настаўніцы Анны Байко. Выходзячы са сцэны, дзеці ўручылі пенсіянерам прыгожыя віншавальныя граматы з вершыкам.

Затым удзельнікі святочнай сустрэчы заселі за сталы з пачастункам. Былі пажаданні здароўя і доўгіх гадоў жыцця для пенсіянераў-інвалідаў ад прадстаўнікоў гмінных улад ды гмінных апякунскіх і культурна-асветных установаў.

Панавала прыемная атмасфера. Нараўчанская медсястра Алімпія Павільч выступіла з цікавым дакладам на тэму здаровага ладу жыцця. Паліцыянтка Паўліна Паўлючук-Коська паінфармавала, якія зараз небяспекі чакаюць старэйшых жыхароў і як трэба паводзіць сябе ў такіх выпадках.

На заканчэнне мерапрыемства старшыня аддзела ПСП паінфармавала пра планаваныя сёлета экскурсіі для нараўчанскіх пенсіянераў (у Цехановец, на Грабарку, у Карчэва і Драгічын) ды бліжэйшую танцавальную вечарыну яшчэ ў гэтым месяцы ў рэстаране ў Нараўцы. У гэтым годзе пенсіянеры мелі дзве сустрэчы — адзначыла спадарыня Ядвіга — і іх будзе больш, важна пры ўсім гэтым, што пенсіянеры сустрэліся, пабачыліся, пагутарылі на розныя тэмы. А нас, старэйшых, усё менш і менш ды некаторыя не ў змозе прыйсці на сустрэчу, ездзяць на калясках, а яшчэ іншыя хварэюць і знаходзяцца ў бальніцах. Нам усім трэба рабіць намаганні, каб восень жыцця не была сумнай.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

Янук ГРЫЦУК

## Капэла «Хутар»

Капэла яшчэ маладая.
Зім малавата «Хутар» мая.
Ляцівы бабы, старыя хлопы...
У «Хутары» маюць
ледзьве цьверць копы.
Будзьця вясёлы, будзьця сільны,
Адным на радасць,
А на злосьць інным!
Я Вас прашу:
Не пераставайця,
Грайця людзям і спявайця!
Пра жыця, біду, мужа, жонку,
Цяжку работу, самагонку...
Пра згоду і часам сварку,
Бульву, хлеб чорны, свінску скварку.
Жычу каб мілы Вам быў свет!
Падажывайця да сто лет!



# Беларуская патанцоўка

## — міжпакаленная трансмісія традыцыі

У саракавыя-шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя забавы «на дошках» былі нормай. У цяперашні час існуе некалькі месцаў, дзе пад адкрытым небам пад рытмы старых і папулярных песень можна патанцаваць у парах ці ў адзіночку. Сёння прагным добрай гульні жыхарам Беластока не трэба далёка шукаць. Ужо трэці раз у сталіцы Падляшша ў нядзелю 12 чэрвеня шумна прайшла беларуская патанцоўка «Аксамітны летні вечар» арганізаваная «**Звязам у карысць адукацыі і прамоцыі Беларускай культуры ў Шчытах**». На плошчы Станіслава Манюшкі, у самым цэнтры горада, сабраліся дзясяткі людзей, каб пры беларускай музыцы правесці цёплы, чэрвеньскі вечар.

Ужо папярэднія гады даказалі, што Беласток чакаў такой падзеі. Гарадская плошча, на якой паставілі палаткі, павесілі ліхтары ды бела-чырвона-белыя ўпрыгожанні, набрала клімату, асабліва, калі надышла ноч. У час папярэдніх патанцовак усе гулялі выдатна, таксама было і гэтым разам. Побач сябе танцавалі старэйшыя элегантна апранутыя пары і цалкам маладзенькія людзі ў вышыванках. Аднак «Аксамітны летні вечар» прыцягвае сапраўды розных людзей. У натоўпе можна было пабачыць такіх, якія самой вопраткай сігналізавалі, што слухаюць зусім іншай музыкі, аднак па нейкіх прычынах прывалакліся на сходку фанатаў беларускай песні.

Гэтым разам музыка спалучала людзей не толькі на паркеце, але таксама на сцэне. Мерапрыемства дало магчымасць успомніць дасягненні беларускай музычнай групы «Дубіны». Той легендарны калектыў паўстаў у 1980 годзе па ініцыятыве Пятра Скепкі. Гурт іграў свае аўтарскія песні, але таксама тыя, якія ведаюць усе беларусы. Песні ў выкананні калектыву «Дубіны» гучалі непаўторна, перш за ўсё дзякуючы жывым інструментам: акардэону, гітарам, скрыпцы і бубнам.

— Цешыць, што маладыя людзі бяруць наш рэпертуар і спяваюць, — сказаў Пятро Скепка. — Здзіўляе, што столькі людзей прыйшло, хаця сёння матч. Гэта падмацоўвае. Хочацца рабіць яшчэ больш дзеля падтрымкі беларускай культуры.

Сёлета ў час беларускай патанцоўкі людзі гулялі пад песні легендарнага гурту «Дубіны» ў выкананні маладых артыстаў з групы «Давід Шымчук БЭНД». На сцэне з'явіліся таксама заснавальнік «Дубіноў» Пятро Скепка ды Дзмітры Ціханюк, які да сёння займаецца музыкай. На гэта дазваляе яму вопыт, якога набраў іграючы яшчэ ў «Дубінах». На яго думку галоўнае, каб да любой працы падыходзіць са страсцю.

— Мы ігралі тое, што ў сэрцы і тое, што нам падабалася, — сказаў Дзмітры Ціханюк. — Думаю, што не толькі мы захапляліся гэтымі песнямі. Па сёння людзі іх памятаюць!

Не толькі памятаюць, аб чым сведчыў натоўп людзей, якія добра гулялі пад іхнюю музыку. Песні «Дубіноў» з'яўляюцца таксама стымулам для новых мастацкіх праектаў і планаў.

— «Дубіны» гэта легенда беларускай песні, — сказаў Давід Шымчук. — Іграем каверы іх твораў, таму што нашы бацькі на іх выхаваліся. Для нас яны былі асновай, на якой паўстала наша група. Я не чуў, каб існаваў яшчэ такі калектыў, які даваў бы канцэрты не толькі ў Польшчы, але і ў іншых краінах свету. Думаю, што калектыў «Дубіны» ў вялікай ступені паўплываў на тое, што такая група як «Давід Шымчук БЭНД» існуе.

У час патанцоўкі ў нязвыклай для сябе ролі фольк-выканаўцы выступіла вядомая беларуская вакалістка Ілона Карпюк. Супольны канцэрт артысткі і групы «Давід Шымчук БЭНД» быў яркім прыкладам таго, што патанцоўка сапраўды сціраe дыстанцыю паміж людзьмі.

— Я, як выканаўца, які грае ўжо шмат гадоў, выступ на сцэне з маладой групай лічу сапраўды важным момантам. Разумею, што кантакт з маладзейшымі вельмі патрэбны, каб асвяжыць стаўленне да жыцця, да музыкі, да ўсяго. Паводле мяне гэта цудоўная ініцыятыва Звязу «Шчыты», каб успомніць такі значны калектыў на Беласточчыне як «Дубіны». Гэта гурт, які пераламаў нейкія традыцыі ў сучаснай музыцы і пачаў іграць нанава. З нейкім іншым гучаннем. Іх трэба лічыць гуртом пераломy ў беларускай музыцы на Падляшшы. Мноства людзей, якія прыйшлі на патанцоўку, выхаваліся на музыцы «Дубіноў».

На думку лідара культавага гурта, патанцоўка ў самым цэнтры Беластока гэта таксама доказ таго, што беларусы ў рэшце рэшт могуць дазволіць сабе на свабоду ў горадзе, інтэгральнай часткай якога з'яўляюцца.

— Даўней было зусім па-іншаму, — сказаў Скепка. — Каб апрануць беларускі касцюм ці кашулю, трэба было праявіць адвагу. Сёння маладыя так апранаюцца, выходзяць на сцэну, не саромеюцца. Нават тут, паглядзіце, колькі людзей прыйшло ў народных вышыванках.

Патанцоўка «Аксамітны летні вечар» з'яўляецца ўнікальнай падзеяй не толькі для старэйшых людзей, але і для маладога пакалення. Добрая музыка, танцы і іншыя атракцыёны спрыяюць завязванню кантактаў і дазваляюць абменьвацца ўражаннямі паміж пакаленнямі і тым самым ліквідаваць бар'еры, якія іх падзяляюць. Трэцяя патанцоўка даказала, што таксама старэйшыя людзі, могуць натхніць маладое пакаленне і паказаць яму, як гулялася «за старых часоў». Маладыя ў сваю чаргу, арганізуючы «Аксамітны летні вечар», паказалі як гэтая інспірацыя ўплывае на іх сёння.

**Уршуля ШУБЗДА**

Здымкі Пятра Недзведзя



«Дубіны» Галіна Іванюк (Якімюк) Пятро Скепка ды Дзмітры Ціханюк




«Давід Шымчук БЭНД» з Ілонай Карпюк (другая злева)

# КСЁНДЗ СТЖАЛЕЦКІ

**Не магу адарвацца ад чытання, а часу на сон штораз менш. З раніцы кава за кавай на прабуджэнне. Усё праз „Мой год 1944. Успаміны дванаццацігодка” ксяндза інфулата Станіслава Стжалецкага. Кніжка выдадзена ў 2009 годзе беластоцкім выдавецтвам „Бук”.**

— Прачытай, табе яна напэўна спадабаецца, — падае кніжку сібірачка са Шчаснавіч Ванда Шышко. Бачыць мяне другі раз у жыцці, але чамусьці верыць, што пазычанае вярну, тым больш, што кніжка належыць не ёй, а нейкаму Станіславу Нармантовічу.

На вокладцы здымак дванаццацігадовага хлопчыка. Кароткая стрыжка, чорны, хатняга вырабу пінжак, вялікія, добрыя, зацікаўленыя вочы, зграбны нос, далікатная ўсмешка.

На задняй вокладцы нашмат меншы партрэт сур'ёзнага ксяндза. Глядзіць згары адзеты ў дастойныя карункі і пелярыну. Левай рукой датыкаецца вялікага крыжа на грудзях. Побач са здымкам кароткая біяграфічная нотка.

Нарадзіўся 16 кастрычніка 1931 года ў Гародні. Узрастаў у хаце дзеда Ігната Манюшкі ў вёсцы Слаўна (сёння Рэспубліка Беларусь) Ружанастоцкай парафіі. Закончыўшы салезіянскі ліцэй у Ружанастоку, паступіў у Духоўную семінарыю ў Беласток, а затым на Каталіцкі Люблінскі ўніверсітэт, дзе атрымаў дактарат па тэалогіі. З 1964 года працаваў выхавацелем і выкладчыкам Старога запавету ў Духоўнай семінарыі ў Беластоку.

„Мой год 1944” — вельмі прыгожая і хвалюючая кніжка, якую напісаць можа толькі чалавек старой даты, добра выхаваны і добра адукаваны. Сціпласць фабулы сустракаецца тут з экзістэнцыяльнай інтэнсіўнасцю. Аўтар родам з вясковай, крытай саломай хаты, але і шляхецкага роду Манюшкаў герба „Крыўда” (якім карыстаўся таксама вялікі кампазітар Станіслаў Манюшка), піша пра незабыўнае багацце простага жыцця, незабычайны смак чорнага, вясковага хлеба, польскія вершы, вывучаныя ў тайнай, імправізаванай школе ці заўсёды прысутныя ў яго жыцці расейскія песні. Простай, як родная страха, празрыстай мовай стварае спакойную, але поўную шляхетнага пафасу нарацыю. Адкрывае дзверы ілюзійнага, дзіцячага свету, у які неадноічы прыйшлося ўцякаць ад неласкавага лёсу. Успаміны, хаця старыя, але падрабязныя. Гэта адна з найвялікшых каштоўнасцей кніжкі. Няма ўжо такой прыроды, звычаяў, светапогляду, міжасобасных адносін і жыццёвых каштоўнасцей. Няма і не будзе.

Вартыя ўвагі таксама надзвычай скрупулёзныя псіхалагічныя нарысы людзей, з якімі тады сутыкаўся. Сам не спадзяваўся, што ўспаміны з дзяцінства атрымаюцца такімі шырокамаштабнымі. Жывыя, свежыя, быццам учарашнія аповеды часам назойліва працягваюцца альбо паўтараюцца. Гэта напалавіну свядомае рашэнне аўтара. „Шмат змог бы я тут выкрасліць”, — прызнаецца. Можна гэта зрабіць у любой хвіліне. Але ж жаль не прыгадаць запамятаных дэталяў, ведаючы, што потым іх рэканструкцыя будзе немагчымай. На ўзроўні падсвядомасці Стжалецкі такім чынам паддаецца працэсу аўтатэрапіі — чыста біялагічна кажучы — пэратраўленні неператраўленых дагэтуль, часта вельмі балючых досведаў. Надта глыбока ўвайшлі ў яго душу, вызначаючы напрамак далейшага, пасляваеннага жыцця. Перспектыва чалавека сур'ёзнага, свядомага, з досведам і шматлікімі адказнасцямі, напэўна не заўсёды дапамагае ў стварэнні сапраўднага пераказу тамтых часоў. Толькі вока ўважлівага чытача ў змозе вылавіць фрагменты тэксту, у якіх аўтар забываецца пра сучасныя канвенцыі, свой узрост і сацыяльныя абставіны.




Ксяндзу Стжалецкаму вайна не закончылася ніколі. Жыве ў яе цяні, называе страшным, балючым досведам, суровай спробай, з якой нельга выйсці цэлым, але і не без разумення ўсялякіх выяў людскога існавання.

Самымі страшнымі выявамі ваеннага існавання аказаліся банды. На пераломе зімы і вясны 1944 года ўначы ў дзверы вясковай хаты пастукалі бандыты — прычына найвялікшага няшчасця, штодзённага страху і смерці любімага дзядзькі Антося. Смерць дзядзькі аказваецца непараўнальна больш трагічнай, чым ранейшая бацькава і дзедава. У цэлай сям'і выклікае балючы, нічым не запоўнены, пралом.

Пра бандытаў піша: несапраўдныя, безыдэйныя партызаны. Прытым верыць, што існуе недзе сапраўдная АК, якая ваюе толькі за свабоду, змагаецца з усялякімі ворагамі польскага народа.

Познім летам 1944 года да Манюшкаў прыходзіць трое незнаёмых, названых у тэксце бежанцамі з Аўгустова. Чаму ў гэтым выпадку аўтар карыстаецца менавіта расейскім словам „бежанец”? У заўвагах дадае, што былі гэта акоўцы: Антон Абядзінскі, псеўданімы „Гурны”, „Гнат” і Станіслаў Кот, псеўданім „Шчапа”.

Вядомы беларускі гісторык Славамір Іванюк у рэцэнзіі на кніжку пра Беластоцкую акругу АК (K. Krajewski, T. Łabuszewski, *Białostocki okręg AK-AKO VII 1944 — VIII 1945*, Warszawa 1977) піша: „Interesujący jest bowiem epizod z oddziałem AK utworzonym 14.VII.1944 r. w pow. Suwałki z żołnierzy Kampanii 11 Białoruskiego Batalionu SS, którzy przeszli na polską stronę. Białorusini ci walczyli u boku Niemców do końca lipca 1944 r. pod dowództwem polskiego oficera podporucznika Stanisława Kota ps. „Szczapa” (s. 69-70)”. (Рэцэнзія друкавалася ў выданні: „Беларускі гістарычны зборнік”, Беласток 1998, № 9, с. 174-180).

Ідучы беларускім следам, трапляем на ўспаміны Стжалецкага пра маладога настаўніка са школы ў Слаўне Міхала Васілевіча Хохі, які з'явіўся там у 1940/1941 школьным годзе. Называе яго польскім беларусам.

Аўтар адназначна лічыць сябе польскім патрыётам, якому простая мова была заўсёды блізкай і зразумелай. „Od zawsze słyszeliśmy powszechny na wsi język prosty, który w zupełności wystarczał do porozumiewania się z Rosjanami” (с. 326). Толькі аднойчы паяўляецца адносна да яе слова „беларуская”. З вялікім сентыментам ставіцца таксама да расейскай мовы і культуры, выхаваны на рускай літаратуры і песнях, між іншым, на „Кацюшы” і „Трох танкістах”. Гэтых апошніх навучыўся ад часта пражываючых у роднай хаце савецкіх салдат. Называе іх добрымі салдатамі. „Obecność tych żołnierzy w Sławnie oznaczała dla mnie nową jakość życia, diametralnie odmienną od dotychczasowej. Znikało uciskające gdzieś w dołku poczucie ciągłej obawy i zagrożenia w warunkach bezradności i bezsiły” (с. 326).

Яго ўспаміны не пазбаўлены глыбокай самакрытыкі. Не заўсёды шляхетныя манеры тлумачыць хуткасцю ваенных падзей і недахопам часу на рэфлексію. Напрыканцы жыцця пахіляецца над уласнай сірочай доляй, на шчасце не пазбаўленай моцнай любові да жыцця, цікавасці свету і людзей.

Апошнюю старонку ўспамінаў канчае 18 сакавіка 2009 года, у 65-ю гадавіну смерці дзядзькі Антона Манюшкі.

Эпізодаў з дзяцінства ад мясцовых старажылаў, якія атрымалася мне запісаць, немагчыма параўнаць з багатымі занатоўкамі ксяндза Стжалецкага. Хачу яму за гэта падзякаваць, падкрэсліць бясцэнную вартасць яго працы. Шукаю адрасу. Выпадкова сустракаю маладога ксяндза Пятра родам з падкрынскага Астраўка, выпускніка беластоцкай семінарыі.

— Так, ведаю ксяндза Стжалецкага, — адказвае. — Быў маім настаўнікам. Добры дзядуля. У настольны тэніс любіў пагуляць. Але вы спазніліся. Літаральна некалькі месяцаў таму адышоў.

„Праз шмат гадоў застануцца толькі запіскі — крыніца ведаў, хаця персанальная, але ўсё-такі непасрэднае сведчанне эпохі” (с. 362).

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## Узнаўляецца справа пагранперахода ў Катэрцы

Многія з нас на трэці дзень Тройцы наведваюць чароўную царкву ў Катэрцы каля Такароў. У гэтае месца прыцягвае народ не толькі памяць аб з'яўленні Багамаці, але незвычайная краса і спакой месца. Толькі невядома, як доўга так прыгожа і спакойна там будзе, бо не спыняюцца старанні па адкрыцці на пралягаючай побач дарозе пастаяннага гранічнага пункту пропуску ў Беларусь.

Нядаўна ўлады Сямятыцкага павета ўзнавілі захады па адкрыцці пункту пропуску ў Катэрцы Мельніцкай гміны. Дакументы ў гэтай справе нядаўна былі перададзены старшыні польскай часткі падкамісіі па справах пунктаў пропуску і інфраструктуры Беларуска-Польскай міжурадавай каардынацыйнай камісіі па справах трансгранічнага супрацоўніцтва. Адкрыццё пункту пропуску спрыяла б эканамічнаму ажыўленню сельскагаспадарчага павета ў той яго частцы, якая ляжыць на сутыкненні трох ваяводстваў: Падляшскага, Люблінскага і Мазавецкага.

Справа цягнецца прынамсі з 2003 года. Новы пагранпераход прычыніўся б да ўзнікнення новай гранічнай інфраструктуры і пунктаў абслугоўвання турыстаў. Жыхары з-за ўсходняй мяжы ахвотна паломнічалі б на Святую Гару Грабарку, а палякі, напрыклад, наведвалі б Высокае, Воўчын ці недалёкі Брэст. Узаемныя кантакты жыхароў гэтых земель былі спынены пасля Другой сусветнай вайны, калі новая польска-савецкая мяжа парушыла гарманічнае жыццё рэгіёна. Асабліва пакарысталіся б пагранпераходам жыхары вёскі Такары, якую ў 1948 годзе папалам падзяліла мяжа, не зважаючы на сямейныя, сяброўскія і суседскія сувязі, умешваючыся нахабна ў маёмасныя пытанні насельніцтва вёскі і наваколля.

Прапанаваны пункт пропуску ў Катэрцы каля Такароў знаходзіцца ў 150 км ад Варшавы і Любліна, на маршруце ў Высокае, Мінск і Маскву, а таксама ў 100 км ад Беластока. Турыстычны рух да новага пагранперахода абслугоўвалі б краёвыя дарогі №19 і 52 ды сетка ваяводскіх дарог, напрыклад, № 640 Сямятычы — Катэрка ці № 690 Сямятычы — Цехановец.

Ці гэтым разам ініцыятыва польскага боку кранецца з месца? Пабачым. Пакуль што палітычная атмасфера — неспрыяльная, але можа ўдасца прыняць станоўчыя рашэнні і пачаць канкрэтную падрыхтоўку да адкрыцця пагранперахода, які раней ці пазней і так узнікне. Лепш было б, каб хутчэй. **М. Ц.**

## Занядбаныя пачакальні

Не ўсюды гмінныя ўлады дбаюць пра прыстрэшкі на аўтобусных прыпынках ПКС. Ёсць і прызабытыя, між іншым, на абочынах ваяводскай дарогі № 685 з Навасадаў у Беласток цераз Заблудаў. Два з іх знаходзяцца ў Трасцянцы ды адзін у Анцутах на тэрыторыі Нараўкаўскай гміны Гайнаўскага павета. Невядома чаму на іх вонкавы выгляд не звяртаюць увагі ні радныя, ні солтысы вёсак у гэтай гміне. А гэтыя малыя пачакальні занядбаныя, брудныя, бясколерныя і сумныя.

Вёска Трасцянка — вялікая, пражывае ў ёй дзвесце чалавек. Чамусьці яе жыхары абыякавыя да такіх запушчаных мініпачакальняў у сваім сяле. Гэтаксама і ў Анцутах (вёска налічвае 66 чалавек), дзе ў тамашняй драўлянай, як тут кажуць, „будцы” сценкі пабітыя, дзіравыя.

У Нараўкаўскай гміне войт руплівец. Ёсць надзея, што возьме да сэрца нашу крытыку і навядзе парадак у вышэйзгаданых прыдарожных прыстрэшках. Яны ж — візітныя карткі вёсак. Варта ўзяць прыклад з суседніх гмін, між іншым, Гайнаўскай, Міхалоўскай ці Нараўчанскай. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# «Зорка» не выходзіць з маёй галавы

*Інтэрв'ю з Янінай Чарнякевіч, легендарнай рэдактар «Зоркі», якая трыццаць гадоў (1960-1990) вяла нашую газету.*



Яніна Чарнякевіч вачыма Олі Яроцкай

**«Парнасік»:** — *Ці Вы часта ўспамінае сваю працу ў «Зорцы»?*

**Яніна Чарнякевіч:** — Заўсёды! «Зорка» не выходзіць з маёй галавы. Гэта маё жыццё. Я нідзе больш не працавала, толькі ў «Ніве».

**П:** — *Ці дзеці, калі Вы стварылі і рэдагавалі «Зорку», любілі беларускую мову?*

**ЯЧ:** — Так, тады ўсе ў нашых вёсках гаварылі па-беларуску. Часам здарылася так, што дзеці не ўмелі па-польску. У кожнай вёсцы гаварылі на сваім дыялекце. Усе дзеці хадзілі на ўрокі беларускай мовы.

**П:** — *Колькі часу займае складанне кожнага нумара газеты?*

**ЯЧ:** — Калісьці газету складалі ў друкарні, не так як цяпер, калі ўсё можна зрабіць у рэдакцыі. Мы толькі пісалі і прапанавалі як гэта павінна быць, а далей графік размяшчаў матэрыял на старонках. Я якраз пісала на машынцы, іншыя пісалі ўручную. «Зорка» выходзіла асобнай кніжачкай. Тады было прасцей, хапала на гэта сродкаў. Заўсёды мы друкавалі многа вучнёўскіх допісаў. Адным з першых вучняў, які пачаў пісаць у «Зорку», быў Янка Целушэцкі. Ён добра пісаў і сістэматычна дасылаў допісы.

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



Яніна Чарнякевіч з земляком Іванкам

**П**: — *Ці Вы паспявалі даязджаць ва ўсе школы, куды Вас запрашалі? А можа памятаеце нейкае здарэнне або канкрэтную сустрэчу?*

**ЯЧ:** — На пачатку было вельмі цяжка даязджаць, бо не было ў рэдакцыі свайго транспарту, аўтобусы таксама рэдка ездзілі. Трэба было штосьць прыдумаць, справіцца. Аднак не здарылася так, што я не паехала кудысьці, куды мяне запрашалі. Я вельмі шанавала кантакты з вучнямі і настаўнікамі. Мне найбольш запамяталася сустрэча ў пушчанскай вёсцы. Там адбывалася настаўніцкая канферэнцыя. Я начавала ў людзей, бо не было як вярнуцца ў Беласток. Аўтобус ад'язджаў на другі дзень, дзесьці ў чатыры гадзіны раніцы. Была зіма, усюды ляжаў снег. На прыпынак не было дарогі, трэба было дабірацца полем. Гаспадыня, у якой я заначавала, паказала рукой, каб ісці прама, да дарогі. Я ішла ў цемры і кожны куст здаваўся мне «ваўком». Але знайшла дарогу і рашыла ісці ў бок Беластока. Калі пабачыла святло, я пачала махаць рукой, каб аўтобус спыніўся. І калі я ўвайшла ўсярэдзіну, кіроўца здзівіўся і спытаў: «А ты, лялька, адкуль тут?». Ён пасадзіў мяне ў цёплае месца, каб я адтала, адагрэлася. Мая галава была ў белым інеі.

**П:** — *Ці ў Вас былі любімыя карэспандэнты «Зоркі»?*

**Я.Ч:** — Былі, толькі я, на жаль, праз столькі гадоў не памятаю як яны называліся. Іх было вельмі многа. Мне запамятаўся Янка Целушэцкі.

**П:** — *Вы паходзіце з Мінска. Як Вы трапілі сюды, на Падляшша, і ў рэдакцыю «Нівы»?*

**ЯЧ:** — Я ў Мінску вучылася ва ўніверсітэце на факультэце геаграфіі. Я паходжу з паўднёвых раёнаў Беларусі. Я трапіла ў Беласток, бо пазнаёмілася са студэнтам з Беласточчыны, які прыехаў вучыцца ў Мінск. Мы пажаніліся і я пераехала сюды жыць, за мужам. Спачатку жылі ў вёсачцы Гайдукоўшчына, разам з цясцямі. Памятаю, што на трэці дзень мы ўсе пайшлі капаць бульбу, бо на другі выпадала Уздвіжанне, прыхадское свята ў Нарваўскай парафіі. На вёсцы я жыла пяць гадоў, пасля перабраліся жыць у Беласток.

А на працу ў «Ніву» запрасіў мяне рэдактар Георгій Валкавыцкі. Спачатку я працавала карэктарам у друкарні, наступныя 30 гадоў я рабіла «Зорку».

**П:** — *Ці ў дзіцячыя гады Вы мелі магчымасць чытаць беларускія дзіцячыя газеты?*

**ЯЧ:** — Гэта было пасля вайны, у той час ніхто не чытаў газет. Але ўсе дзеці тады гаварылі па-беларуску.

**П:** — *Калі Вы працавалі ў «Зорцы», людзі называлі «Ніву» дадаткам да «Зоркі». Што трэба зрабіць, каб здабыць такую папулярнасць сярод людзей?*

**ЯЧ:** — Тады было так, што «Ніву» выпісвалі ў школы. І дзеці, якія вучыліся беларускай мове, хацелі чытаць «Зорку». Яны былі нашымі прамотарамі, намаўлялі сваіх бацькоў, каб тыя падпісаліся на нашу газету.

**П:** — *Ці людзі, калі Вы выйшлі на пенсію, далей называлі Вас «Зоркай»?*

**ЯЧ:** — Я яшчэ шэсць гадоў працавала на Беластоцкім радыё і можа з таго мяне памятаюць. Я там вяла перадачу для дзяцей. А ці яшчэ называюць мяне «Зоркай», не ведаю!

**П:** — *Як Вы ўспрымаеце цяперашнюю «Зорку»?*

**ЯЧ:** — Я люблю заглядаць у сучасную «Зорку». Цешуся, што яна такая. Добра, што ёсць іншыя магчымасці, што ёсць такія Сустрэчы і што газета бывае каляровай.

**П:** — *Дзякуем за размову.*

Гутарку правяла сустрачанская газета **«Парнасік»**: *Максім Фіёнік (галоўны рэдактар), Аляксандра Салавянюк, Агата Усціновіч, Аляксандра Яроцкая, Зузя Кардзюкевіч, Аляксандра Зінкевіч.*

*Наталля Васько,*
*галоўны рэдактар сустрачанскай газеты «Зорны шлях»*

## Зорка

*Свеціць зорачка ў небе.*
*Зірні, паночак на яе*
*і ў цяжкія хвіліны*
*ты падумай пра яе.*

*Успомніш тады ты,*
*што не сам на зямлі,*
*што ёсць яшчэ хтосьці,*
*хто заўсёды дапаможа.*

*Гэта мама, гэта тата,*
*гэта добрая асоба*
*і ў яе вачах шчырых*
*твая свеціць зорачка.*

*Зорка, зорачка, зорка,*
*свяці нам доўга, доўга!*
*Ніколі не загасай*
*і свяці ў кожны час!*



**XXX Сустрэчы "Зоркі"** Час: 13.06 – 18.06. 2016 г. Тэма: 60 гадоў "Нівы".

Месца: Агратурыстычны пансіянат Барыса Казлоўскага "Бора-Здруй", Новае Ляўкова, Нараўчанская гміна.

## Праграма XXX Сустрэч "Зоркі"

**13.06 (панядзелак)**
8⁰⁰ — 15⁰⁰ Прыезд у Ляўкова і кватарунак удзельнікаў.
15⁴⁰ Сустрэча ўдзельнікаў. Арганізацыя рэдакцый.
17³⁰ Абед і вячэра.
18⁰⁰ Сяброўскія творчыя прэзентацыі, гаворым пра творчыя поспехі на працягу апошняга школьнага года.
22⁰⁰ Начная ціш.

**14.06 (аўторак)**
7⁰⁰ Пад'ём.
8⁰⁰ Сняданак.
8⁴⁰ Карэспандэнцкі допіс – практычная навука пісання. Месца і значэнне допісу ў "Ніве". Заняткі вядуць рэд. Ганна Кандрацюк-Свярубская і Наталля Васько.
10⁰⁰ Зорныя тэмы "Зоркі" – сустрэча з рэд. Яўгенам Вапам.
11⁰⁰ "Ніва" на Радыё Беласток. Майстар-класы з рэд. Міхасём Сцепанюком. Запіс вершаў удзельнікаў сустрэч і спалучэнне іх з музыкай Яна Тарасевіча.
14⁰⁰ Абед.
14⁴⁰ Праца ў рэдакцыях.
16⁰⁰ "Ніва" і літаратура – сустрэча з рэд. Мірай Лукшай.
17⁰⁰ Праца ў рэдакцыях.
18⁰⁰ Вячэра.
18⁴⁰ Тэмы "Зоркі" – "Жывінкі з глыбінкі". Літаратурныя чытанні Міры Лукшы.
22⁰⁰ Начная ціш.

**15.06 (серада)**
7⁰⁰ Пад'ём.
8⁰⁰ Сняданак.
8⁴⁰ Інтэрв'ю – практычная навука пісання. Заняткі вядуць Ганна Кандрацюк і Уршуля Шубзда.
10⁰⁰ Тэмы "Нівы" – рэд. Віталь Луба і «Бежанства 1915 года». Інтэрв'ю-гутарка з госцем.
11⁰⁰ Праца ў рэдакцыях.
14⁰⁰ Абед.
14⁴⁰ Тэмы "Нівы" – Ян Тарасевіч. Сустрэча з рэд. Ганнай Кандрацюк і рэд. Дыянай Нахіла.
15⁰⁰ Прэзентацыя дакументальнага фільма Юрыя Каліны «Ян Тарасевіч, забыты кампазітар».
15⁵⁰ Праца ў рэдакцыях.
18⁰⁰ Вячэра.
18³⁰ Праца ў рэдакцыях.
22⁰⁰ Начная ціш.

**16.06 (чацвер)**
7⁰⁰ Пад'ём.
8⁰⁰ Сняданак.
8⁴⁰ Праца ў рэдакцыях.
10⁰⁰ Яніна Чарнякевіч – легендарная "Зорка" – сустрэча з рэд. Янінай Чарнякевіч. Інтэрв'ю-гутарка з госцяй.
11⁰⁰ Праца ў рэдакцыях.
14⁰⁰ Абед.
15⁰⁰ Праца ў рэдакцыях.
18⁰⁰ Вячэра. Сюрпрыз. Вогнішча з беларускім музычным гуртом «Хутар».
22⁰⁰ Начная ціш.

**17.06 (пятніца)**
7⁰⁰ Пад'ём.
8⁰⁰ Сняданак.
8⁴⁰ Падарожжы і рэпартаж у "Ніве". Выступае рэд. Ганна Кандрацюк.
10⁰⁰ Школа карэнных народаў Паўночнай Амерыкі. Якімі справамі жывуць маладыя інуіты – сустрэча з Янінай Кандрацюк-Бро, падляшскай настаўніцай з Канады. Гутарка-інтэрв'ю з госцяй.
11⁰⁰ Заняткі ў рэдакцыях.
14⁰⁰ Абед.
15¹⁵ Экскурсія па Нараўчанскай гміне, удзел у XV Міжнародным мастацкім пленэры (Нараўка).
19⁰⁰ Вячэра.
18⁴⁰ Трыццаць выпускаў Сустрэч "Зоркі" – мультымедыйная прэзентацыя гісторыі Сустрэч "Зоркі".
22⁰⁰ Начная ціш.

**18.06 (субота)**
7⁰⁰ Пад'ём.
7³⁰ Сняданак.
8¹⁰ Ацэнка артыкулаў і сустрачанскіх газет. Падвядзенне вынікаў.
9⁰⁰ Падарожжа ў Саколку.
10³⁰ Удзел у святкаванні 55-й гадавіны з дня смерці Яна Тарасевіча (прапанова для ахвотных!).
12⁰⁰-14⁰⁰ Сяброўская сустрэча ў кампаніі з паклоннікамі Яна Тарасевіча (Саколка).
14⁰⁰ Развітанне. Ад'езд удзельнікаў.

Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych

# Польска-беларуская крыжаванка № 26-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 22:**

Арт, ноч, час, як, вяселле, неба, палец, так, ніць, ара. Чэрап, ас, Лі, вянец, сецьь, хлеб, лата, ял, ар, сякерка.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі **Кінга Бах** з Шудзялава, **Аня Радзівончык** з Нараўкі, **Эва Анджэйчык** з Нарвы. Віншуем!



# Святая Еўфрасіння Полацкая ў Гайнаўцы

Урачыстасці ўнясення іконы з часціцай мошчаў прападобнай Еўфрасінні Полацкай у Свята-Троіцкі сабор у Гайнаўцы адбыліся 4 і 5 чэрвеня, у дзень памяці святой. Спадарожнічала ім канферэнцыя, прысвечаная прападобнай Еўфрасінні і іншым святым Беларускай зямлі, якая адбылася ў Гайнаўскім доме культуры. Свята-Троіцкі сабор збудаваны быў у Гайнаўцы пад наглядам мітрафорнага протаіерэя Антонія Дзевятоўскага, які падчас Другой сусветнай вайны першым стаў служыць у Сафійскім саборы ў Полацку, які пасля рэвалюцыі быў закрыты. Айцец Антоній з тэрыторыі сённяшняй Рэспублікі Беларусь пераехаў служыць у Польшчу і пасля стаў настаяцелем тады яшчэ адзінага гайнаўскага прыхода. Разам з вернікамі рашыліся, што круглая бакавая царква ў саборы будзе прысвечана святым Беларускай зямлі і там на сценах храма напісаны выявы прападобнай Еўфрасінні Полацкай і астатніх святых. Пасярэдзіне гэтай царквы ляжыць ікона з часціцай мошчаў святога дзіцяткі Гаўрыіла. Вялікая ікона з часціцай мошчаў прападобнай Еўфрасінні Полацкай у вельмі прыгожым ківоце знаходзіцца справа галоўнай царквы сабора, у якой найчасцей адбываюцца багаслужбы.


Ікону з часціцай мошчаў прападобнай Еўфрасінні Полацкай унеслі ў сабор інакіні Ала і Харыціна з Полацка

— Звярнуўся да нас Марк Якімюк з просьбай арганізаваць урачыстасці з нагоды прывязення ў Гайнаўку іконы з мошчамі прападобнай Еўфрасінні Полацкай і мы згадзіліся. Мы рады, што такая вялікая святая ў іконе з часціцамі мошчаў прыбывае ў Гайнаўку і можна будзе маліцца да яе і прасіць хадайніцтва ў Бога ў розных індывідуальных цяжкасцях, жыццёвых выпрабаваннях, — сказала Люцына Рушук, старшыня гайнаўскага аддзялення Брацтва святых Кірылы і Мяфодзія, якое супольна са Свята-Троіцкім прыходам у Гайнаўцы арганізавала ўрачыстасці ўнясення іконы ў сабор.

Наладзіць канферэнцыю, з якой пачаліся святкаванні, дапамог Гайнаўскі дом культуры, у канцэртнай зале якога яна і праходзіла.

— Я з Еўфрасіннеўскім жаночым манастыром у Полацку супрацоўнічаю 12 гадоў. Плёнам нашага супрацоўніцтва з'яўляецца больш за дваццаць выдадзеных выдавецтвам «Братчык» кніг, частка з якіх надрукавана на беларускай мове. Супрацоўніцтва мы наладзілі дзякуючы тадышняму генеральнаму консулу Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхаілу Аляксейчыку. Мы за супрацоўніцтва ўдзячныя ігумenні Еўдакіі, настаяцельніцы Полацкага жаночага манастыра і матушцы Сергіі, якая займаецца там выдавецкімі справамі. Запрапанаваў я напісаць ікону прападобнай Еўфрасінні Полацкай, нябеснай заступніцы беларускага народа. Знайшліся спонсары, якія дапамаглі здзейсніць задуму і выканаць вельмі прыгожы ківот для іконы. Дапамагаў Фонд Еўфрасінні Полацкай, які нядаўна паўстаў у Мінску. Індывідуальныя спонсары не хочуць, каб публічна былі агучаны іх прозвішчы, — сказаў Марк Якімюк з Праваслаўнага выдавецтва «Братчык» у Гайнаўцы. Разам са старшынёй гайнаўскага брацтва Люцынай Рушук адкрыў ён канферэнцыю ў ГДК і быў яе вядучым.

Апрача дакладчыкаў на канферэнцыю прыбылі былы генконсул РБ у Беластоку Міхаіл Аляксейчык, старшыня Фонду прападобнай Еўфрасінні Полацкай у Мінску Сяргей Барташэвіч, гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, святары, некаторыя войты гмін Гайнаўскага павета, дырэктары адукацыйных і культурных установ Гайнаўкі.

Першым дакладчыкам быў прафесар Антон Мірановіч з Універсітэта ў Беластоку, які распавёў пра святых Беларускай зямлі, называючы прападобную Еўфрасінню Полацкую маці беларускага народа. Сказаў ён што Жаночы манастыр у Полацку, збудаваны пад наглядам прападобнай Еўфрасінні, побач духоўнага значэння, стаў адукацыйна-культурным цэнтрам. Дакладчык гаварыў, што святая Еўфрасіння бачыла развіццё свайго народа праз рэлігію, асвету, культуру. Падчас свайго выступлення прафесар Мірановіч звярнуў увагу на больш вядомых святых Беларускай зямлі — св. Афанасія Брэсцкага, трох віленскіх мучанікаў Антонія, Яна і Яўстафія, св. Сафію Слуцкую, св. епіскапа Лаўрэнція Тураўскага і, між іншым, на епіскапа Кірылу Тураўскага, якога назваў беларускім Златавустам. Гаварыў аб св. князі Расціславе, св. Меркурыі Смаленскім, св. Елісеі Лаўрышаўскім, св. Юліянне Альшанскай, св. Макарыі Пінскім. Выявы часткі згаданых святых відаць на сценах круглай царквы ў гайнаўскім саборы. Дэкан гайнаўскай акругі і настаяцель Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч выступіў перад сабранымі з успамінамі аб папярэднім настаяцелі сабора мітрафорным протаіерэі Антонію Дзевятоўскім.


Канферэнцыю адкрыла старшыня гайнаўскага брацтва Люцына Рушук. За сталом сядзяць Марк Якімюк (злева), дакладчыкі і госць з Мінска Сяргей Барташэвіч

— Гэта айцец Антоній Дзевятоўскі першым стаў служыць у Сафійскім саборы ў Полацку ў 1942 годзе, які пасля рэвалюцыі быў закрыты. Здарыўся тады незвычайны выпадак. Узрыў скінутай з самалёта бомбы, якая ўпала каля сабора, разбурыў закрытыя дзверы ў храм і айцец Антоній з вернікамі маглі ўвайсці ў сабор без узломлівання дзвярэй, — сказаў айцец Міхаіл Негярэвіч.

Інакіня Ала з Жаночага манастыра ў Полацку дабавіла, што зараз у Сафійскім саборы ў Полацку (паўторна закрыты савецкімі ўладамі ў 1944 годзе — А. М.) надалей дзейнічае музей, а багаслужба адбываецца там толькі падчас святкавання, звязанага з саборам. Інакіні Ала і Харыціна з манастыра ў Полацку выступілі з мультымедыйнай прэзентацыяй «Жыццё прападобнай маці Еўфрасінні», вяртаючыся на Полаччыну XII стагоддзя. Пазней была прэзентацыя фільма «Свята-Еўфрасіннеўскі жаночы манастыр у Полацку», які знаёміў з гісторыяй і сучаснасцю згаданага манастыра. Падчас канферэнцыі Юры Андраюк, дырэктар друкарні «Ортдрук» у Беластоку зрабіў прэзентацыю альбома «Спаская царква Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку», які быў выдадзены пад рэдакцыяй Уладзіміра Сараб'янава. Распавядаючы пра жыццё прападобнай Еўфрасінні, інакіня Ала звярнула ўвагу на славуты род Прадславы, як называлі прападобную да манаскага пострыгу, на вельмі добрую яе адукацыю, якую атрымала пазнейшая святая і на прагу служыць Богу. Пасля пострыгу ў манаства інакіня Еўфрасіння нейкі час жыла ў келлі каля Сафійскага сабора. Прападобная малілася там і перапісвала кнігі. Пазней з благаславення епіскапа Ільі Еўфрасіння пасялілася каля драўлянай Спасаўскай царквы ў Сяльцы і заснавала там Спасаўскі жаночы манастыр. Пад наглядам ігуменні Еўфрасінні была збудавана мураваная Спасаўская царква ў Полацку. Цяпер прадаўжаецца традыцыя гэтага манастыра і хаця ў сённяшнім Спаса-Еўфрасіннеўскім жаночым манастыры кнігі не перапісваюцца, затое выдаюцца, пішуцца іконы і дзейнічае бібліятэка, у якой атрымала паслушанне інакіня Ала. Прападобная Еўфрасіння ў старэйшым узросце адправілася ў паломніцтва ў Святую зямлю і пасля малітваў памерла там у 1173 годзе. Праз некалькі гадоў Яе мошчы везлі ў Полацк, але з-за ваенных дзеянняў, якія вяло Полацкае княства, мошчы прападобнай Еўфрасінні не былі давезены на месца. Былі яны змешчаны ў Дальнія пячоры Кіева-Пячэрскай лаўры і толькі ў 1910 годзе, з дазволу імператара Мікалая II, мошчы прападобнай Еўфрасінні былі перавезены з Кіева ў Полацк, у Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр, дзе знаходзяцца і зараз. Шматлікія паломніцтвы едуць і ідуць туды, каб пакланіцца мошчам прападобнай Еўфрасінні.

— Мы нядаўна заснавалі Фонд прападобнай Еўфрасінні ў Мінску і займаемся дапамогай Беларускай праваслаўнай царкве. Дапамагалі мы таксама здзейсніць задуму выканання для Гайнаўкі іконы прападобнай Еўфрасінні. Прыгожы ківот для іконы святой Еўфрасінні выканаў разьбяр Аляксей з Мінска, — сказаў старшыня Фонду прападобнай Еўфрасінні Полацкай у Мінску Сяргей Барташэвіч.

— Сёння для жыхароў Гайнаўкі і наваколля вялікае свята — унясенне ў наш сабор іконы з часціцай мошчаў прападобнай Еўфрасінні Полацкай, святой асабліва паважанай беларускім народам. Я спадзяюся, што шматлюдным будзе прывітанне гэтай святыні, — заявіў айцец Марк Юрчук, духоўны апякун гайнаўскага аддзялення Брацтва святых Кірылы і Мяфодзія, вікарны святар Свята-Троіцкага сабора.

Прывітаць прападобную Еўфрасінню ў яе іконе і часціцы мошчаў прыбылі гайнаўяне і жыхары навакольных мясцовасцей. На наступны дзень памаліцца каля іконы прыбылі таксама вернікі з больш аддаленых мясцовасцей. Ікону ўнеслі ў сабор інакіні Ала і Харыціна ў суправаджэнні святароў, прыслужнікаў і вернікаў. Унясенне адбывалася ў адпаведнасці з традыцыяй Беларускай царквы — кветкамі былі ўсланы тратуары і лесвіца, па якіх неслі ікону, а перад іконай ішлі дзеткі з вялікімі кветкамі. Ікону прывітаў настаяцель Свята-Троіцкага прыхода айцец Міхаіл Негярэвіч, які на наступны дзень падзякаваў Свята-Еўфрасіннеўскаму жаночаму манастыру ў Полацку і ігуменні Еўдакіі за дар для гайнаўскага сабора. Дзякаваў таксама гайнаўскаму аддзяленню Брацтва святых Кірылы і Мяфодзія за арганізаванне святкавання ў саборы і ўрачыстасцей у Гайнаўскім доме культуры. На працягу двух дзён перад іконай святой Еўфрасінні быў адслужаны малебен, чыталіся акафісты, а вернікі маліліся да прападобнай падчас усяночнай багаслужбы і літургіі, якая закончылася хрэсным ходам з іконай святой Еўфрасінні. Кніжачку «Прападобная Еўфрасіння Полацкая» на беларускай і польскай мовах пад ганаровым патранатам былога генконсула РБ у Беластоку Міхаіла Аляксейчыка выдала Праваслаўнае выдавецтва «Братчык» з Гайнаўкі. Кніжачка яшчэ перад святкаваннямі раздавалася вернікам гайнаўскага сабора. Падчас святкавання члены гайнаўскага брацтва раздавалі таксама акафіст і іконкі прападобнай Еўфрасінні. Інакіні Ала і Харыціна распавялі пра дапамогу прападобнай Еўфрасінні. Гаварылі яны, што пасля чытання акафістаў і шчырых малітваў прападобная таксама вернікам у Польшчы будзе дапамагаць у хваробах, жыццёвых цяжкасцях і агульных справах. Цяпер будзе можна памаліцца ў гайнаўскім саборы каля іконы і часціцы мошчаў прападобнай Еўфрасінні і папрасіць у Яе хадайніцтва перад Госпадам і дапамогі ў розных жыццёвых выпрабаваннях. А 10 ліпеня, у нядзелю, адбудуцца святкаванні ў гонар усіх святых Беларускай зямлі, сярод якіх прападобная Еўфрасіння лічыцца першай.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Каб спявала душа



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**— Напачатак пытанне: Хто такі Мікола Мяжэнны? Дзе ён узрастаў, дзе сталеў, што прыцягнула яго ў музыку, якія жыццёвыя лабірынты прывялі яго ў Ляўкова?**

— У мяне ўжо шмат гадоў за плячыма. Калі б пачаць з самога маленства, дык з гэтага атрымаецца надта вялікі расказ і занадта многа ён зойме часу. Скажу, як я трапіў у музыку. У сям'і па бацькоўскай лініі было шмат музыкаў, самавукаў. І сам бацька мой таксама граў і спяваў. Але пасля вайны, дзе ён быў ранены, у яго была парушана сінхроннасць — ён іграў правай рукой, а левай спачатку не мог, але з цягам часу гэта прайшло. І галоўным маім правадніком у свет музыкі была бабуля — мама майго бацькі. Яна ведала незлічонае мноства песень: і расейскіх, і беларускіх; адным словам — у яе была агромная песенная скарбніца. І з гэтага пачалося. Ну, можа передавалася яно пасрэдніцтвам генаў. Яна спявала, а мой бацька, бачучы маю цягу да музыкі, наколькі было тады магчыма, спрыяў мне. А пасля вайны жылося вельмі ж бедна, не было грошай. Выручаў нас тады бацькаў дзядзька, які жыў у Маскве і працаваў у інстытуце Курчатава. Ён гаварыў бацьку: „Дай мне Мікалая, а я зраблю з яго вялікага музыканта; бо ж Масква гэта не вёска". А я ж сам нарадзіўся ў вёсачцы Буды ў Магілёўскай вобласці, амаль на граніцы са Смаленшчынай. Калі я пачаў падбіраць на слых штосьці, мне было тры-чатыры гадочкі. І з таго часу пайшло. Бо ў пяць-шэсць гадоў мяне ўжо вадзілі на розныя святы, у школу зайграць у час нейкага ранішніка, на Новы год, падыграць старэйшым танцы. З гэтага ўсяго і пачалося.

**— Хвілінку: граць гэта такі агульны тэрмін. Вы, маленькі хлапчук, гралі ўжо на нейкім інструменце, ці мо спявалі?**

— І адно, і другое. Былі ў той час такія маленькія гармонікі — на шэсць кнопак. Быў гэта вельмі просты інструмент, але і мелодыі не былі складаныя — ну, полечка якаясь, кракавячак, вальчык... Нейкі рытм даецца і ўсё. Але ўжо было асэнсаванне, а гэта ж асноўнае. А гэтую аснову ўклала ў мяне бабуля. Па меры майго ўзросту крышку падрасталі і мае музычныя інструменты. Праходзіў год і бацька ездзіў у Маскву і прывозіў адтуль новую гармошку. Гэта доўжылася дзесьці да пятага класа. Пасля чацвёртага класа пайшоў я ў дом культуры, там была дзяўчына, якая прывезла баян; яна на ім адным пальцам па трох гузіках бегала. Я да гэтага часу граў на гармошках, якія называліся хромкамі; але хромка гэта не баян. Баян развіўся на аснове гармоніка.

**— Чым баян багацейшы за гармонік?**

— Баян мае паўтоны, ён храматычны, ён дае намнога большыя танальныя магчымасці. Акурат у той час у раёне, у Горках, ладзіліся курсы і я туды паехаў. Там працаваў выкладчык музычнай школы. І ён заўважыў у мяне такія-сякія здольнасці і загадаў мне паклікаць бацьку; ён парэкамендаваў бацьку пасласць мяне ў музычную школу. І я з пятага па восьмы клас хадзіў у музычную школу ў Горкі, адлеглую за дзевяць кіламетраў ад Будаў. У суботу я канчаў заняткі ў асноўнай школе ў Кісялёве і ішоў пяць-шэсць кіламетраў у Горкі. Начаваў у настаўніка да досвітку, а трэцяй-пятай гадзіне ў нядзельку ішоў дзевяць кіламетраў дахаты. А ў зіму, у тую пару хоць вока выкалі, снег... Вось я так тады займаўся. Страшна было, рознае здаралася, і ваўкі сустракалі, але калі мела быць на жывое, то і ў жывых астаўся. Калі я канчаў сёмы клас, згарэла наша хата. Згарэла ўсё, нічога не асталося. Да таго ж страхавачны агент спазніўся да нас на тыдзень і за пагарэлую маёмасць атрымалі мы адно капейкі. І такая бяда настала, што не было нават чаго есці. Бацькі атрымоўвалі працадні, а грошай жа да 1961 года калгаснікі не атрымоўвалі ніякіх. Музычную школу я скончыў датэрмінова, закончыў таксама васьмігодку і мой настаўнік парэкамендаваў мяне на працу; я стаў на працу ў доме піянераў. Днямі працаваў, а вечарамі вучыўся ў школе рабочай моладзі. Пасля двух гадоў я паехаў здаваць экзамен на завочнае аддзяленне сярэдняй музычнай школы. А пасля прыйшло войска і так далей, і так далей. Вось так я прыйшоў у музыку.

**— Вучылішча было ў Магілёве?**

— Не, у Гродне. Пасля яго мяне прызвалі ў войска, а вышэйшую адукацыю я здабываў ужо пасля войска, завочна, калі была сям'я, было двое дзяцей... У войску спачатку служыў у аркестры. Хаця я не духавік, але ў той час набіралі салдат у духавы аркестр і я туды трапіў. Так выйшла, што я музыкай займаўся таксама і ў войску. У гарнізоне быў жаночы народны хор, у якім спявалі жонкі вайскоўцаў. Дырыжорам таго хору быў маёр, якога неўзабаве перавялі ў Германію. Была няхватка дырыжораў, таму нам прыслалі чалавека, які меў за сабою нейкія курсы, але аркестра ён не мог весці, а тым болей хору. Бо калі ў аркестры ён хаця што-небудзь кеміў, то з хорам у яго нічога не атрымлівалася. І хор звалілі на мяне, і я год працаваў з народным жаночым хорам. Пасля дэмабілізацыі я стаў на працу ў пачатковую школу, вёў там аркестр, урокі музыкі. А пасля атрымаў вышэйшую адукацыю і так пайшло, пайшло, пайшло... А як я трапіў сюды?

**— Менавіта...**

— Працаваў я дырэктарам музычнай школы, але нагрузка была такая, што стала здаваць здароўе і я перайшоў да студэнтаў, працаваць выкладчыкам, вёў таксама хары, такія як „Цаглінкі". А ваяводскія вярхі, беластоцкія і гродзенскія, сталі ладзіць супрацоўніцтва, у якім актыўную ролю іграла Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Выбралі нас трох чалавек, дырыжораў, бо я такую спецыяльнасць атрымаў пасля завяршэння штудыяў. Так я трапіў на Беласточчыну. Спярша вёў я „Красуні" ў Красным Сяле. Але тыя харысткі задумалі стаць раднымі, у выніку ў іх выйшаў разлад... А тут, у Ляўкове, быў працаваў іншы чалавек, аднак ён далей працаваць тут не мог, і мяне папрасілі, каб я тут крышку памог, нарыхтаваць да агляду. І так я ў Ляўкове з восені 1993 года з „Цаглінкамі".

**— І як тады, з Вашага пункту гледжання, выглядалі „Цаглінкі"?**

— Іх было нямнога — шэсць ці сем асоб больш сталага ўзросту. І я задумаў нешта зрабіць. А што зрабіць, калі трэба людзей? І я паставіў перад сабою задачу — збіраць людзей. І паціхеньку дайшло да той колькасці людзей, якую маем сёння. З таго часу цераз „Цаглінкі" прайшлі тры або і чатыры пакаленні. Былі малодшыя, якія павыходзілі замуж, старэйшыя паадыходзілі, некаторых ужо няма ў жывых. Пазней заснаваў я групу малодшых дзяцей, каб былі пераймальнікі. Вось спявалі маленькія дзеткі, з якіх на сённяшні дзень было дзве дзяўчыны; адна з іх толькі што выйшла замуж і адыходзіць адсюль, неўзабаве павінна стаць мамаю...

**— „Цаглінкі" ездзяць у гастролі па шырокім свеце. Як далёка Вы бывалі з імі?**

— Трэба пачаць з калектыву. Бо хорам ці ансамблем можна назваць тады, калі ёсць калектыў. А калектыў гэта людзі аб'яднаныя якойсьці адной думкай, адным жыццём — а гэта ўлюблёнасць у спеў, гэта ўлюблёнасць у родную мову, гэта ўлюблёнасць у музыку, гэта ўлюблёнасць у тое, чым спявае душа. Да таго ж яшчэ патрэбная вельмі-вельмі вялікая праца. Шахцёр мусіць пастаянна цяжка працаваць, тады ён чагосьці дасцігае. Так і тут; бо музыка гэта і вясёлая, і сумная, але патрабуе вельмі многа часу, многа працы. Калі не папрацуеш, нічога не атрымаецца. Таму трэба вельмі шмат працаваць.

**— Але я Вас пытаў пра геаграфічны абсяг „цаглінкавых" гастроляў...**

— Яшчэ слоў пару пра калектыў. Калі ёсць зроблена вялікая-вялікая праца і ёсць добрыя вынікі, то тады калектыў павінен выступаць. Бо калі калектыў не выступае, тады ён адкочваецца назад. Калектыў павінен паказваць сябе, павінен данасіць сваю творчасць да людзей, каб людзі цешыліся. Нечага крывіць душою — артыстам вельмі прыемна, калі ім б'юць брава і ацэньваюць працу высока, то тады і душа радуецца ад сваёй працы, ад дасягнення высокай мэты, якой людзі апладзіруюць. Таму вось я стараўся, стараюся і буду старацца, дзе магчыма ці нават немагчыма, каб „Цаглінкі" выступалі на любых сцэнах: на вялікіх і малых, у малых і буйных мясцовасцях. Усюды трэба выступаць і думаць, што людзі хочуць пачуць тое, што пранікне ў іх сэрцы. Калі яны ўспрымуць сэрцам, тады гэта будзе абазначаць, што калектыў выканаў пастаўленую перад ім задачу, а людзі ацанілі гэта станоўча. Асабліва людзі вясковыя, бо яны больш добразычлівыя, больш шчырыя. І варта выступаць перад такою публікай, якая шчырая, бо іх авацыі ідуць ад сэрца.

Мы аб'ездзілі наваколле, ваяводства, і суседнія, і шмат па Польшчы. Літва, Украіна, Беларусь — мы з'ездзілі і ў Мінск, і ў Гродна, і ў Брэст. Мы перад сабою ставім задачу — калі людзі выязджаюць на канцэрт, на выступленне, яны павінны добра выступіць, а дзеля гэтага павінна быць выканана вялікая праца. Далей — яны павінны абагаціць сябе, убачыць штосьці прыгожае, штосьці цікавае, аб чымсьці даведацца. Што ж такое Ляўкова і калёніі? Для прыкладу — паехалі мы ў Быдгашч, трапілі там у тэатр, людзі пабачылі, як выглядае гэтая вялікая ўстанова. І цэрквы глядзелі — тут у Польшчы і на Беларусі. На Украіне былі ў Нежыне, а там на той час было чатырнаццаць дзеючых храмаў, а раней было іх звыш дваццаці. Былі ў Жыровічах, былі ў Мінску. Адным словам — мы, пабачыўшы свет, узбагачаем сябе культурна.

**— Дзякую Вам за працу ў Ляўкове і жадаю Вам дабра ў Вашым асабістым жыцці і далейшых музычных поспехаў, асабліва з „Цаглінкамі".**

**Размаўляў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



# Восьмы раз „Пазнаем Беларусь”




Конкурс „Пазнай Беларусь” быў аб’яўлены Культурны цэнтрам Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча ў першы раз на пачатку 2009 года для моладзі, пражываючай у Польшчы, зацікаўленай гісторыяй і культурай Беларусі, яе сучасным жыццём, для актыўных творчых асоб. Мэтай конкурсу з’яўляецца папулярызацыя сярод маладога пакалення беларусаў у Польшчы ведаў пра культуру, гісторыю і сучаснасць Беларусі, садзейнічанне рэалізацыі творчага патэнцыялу дзяцей і моладзі беларускай меншасці ў Польшчы, зацікаўленне грамадскасці праблемай захавання нацыянальнай самасвядомасці сярод беларускай моладзі ў Польшчы. Служыць ён таксама падтрымцы дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову. Конкурс карыстаецца вялікай папулярнасцю ў школах і культурных установах Беласточчыны і не толькі тут. У восьмым выпуску конкурсу прынялі ўдзел вучні навучальных установаў у Польшчы ва ўзросце ад 5 да 19 гадоў, не толькі вывучаючыя беларускую мову. Да ўдзелу ў конкурсе прыняты былі не толькі працы на беларускай мове. Адзначалася арыгінальнасць і творчы падыход да афармлення. Намінацыі конкурсу мелі чатыры ўзроставыя катэгорыі: 5-6, 7-12, 13-15 і 16-19 гадоў — лепшы малюнак, пластычная праца пра Беларусь, фотаздымак аб Беларусі, літаратурна-паэтычны твор (апавяданні, вершы, замалёўкі і г.д.), сачыненне „Беларусь і беларускасць у гісторыі маёй сям’і” і мультымедыйная прэзентацыя аб Беларусі (з 8 гадоў). Па кожнай намінацыі вызначаны былі пераможцы па ўзроставых катэгорыях з прысуджэннем дыпломаў першай, другой і трэцяй ступені. Конкурс праводзіўся пад патранатам Культурнага цэнтра Беларусі, епіскапа Беластоцка-Гданьскай епархіі і медыйным Радыё Беласток і тыднёвіка „Ніва”. Конкурс праводзіўся ўжо каторы раз у першую чаргу дзякуючы Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству, таму што калі Культурны цэнтр Беларусі перасяліўся ў Варшаву, разгляд прац і ўручэнне ўзнагарод адбываюцца ў ГП БГКТ у Беластоку па вуліцы Варшаўскай 11, куды і пасылаліся працы. Раней сумеснымі намаганнямі выдаваўся альбом узнагароджаных прац, дзе апынуліся мастацкія працы, фотаздымкі, сачыненні дзяцей і літаратурныя творы пра тое, што яны думаюць пра Беларусь, але ў апошні час сарганізавана вялікая выстава твораў, завешаная на сценах сядзібы БГКТ, якая пасля паедзе ў навучальныя і культурныя ўстановы. Узнагароды маладым творцам, апрача галоўнага арганізатара конкурсу КЦБ, фундуе таксама Міністэрства адукацыі Беларусі.

Абвяшчэнне вынікаў і ўручэнне ўзнагарод лаўрэатам адбылося ў сядзібе Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Мерапрыемства вёў намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень, а ўзнагароды лаўрэатам конкурсу ўручалі, м.інш. дырэктар КЦБ Міхаіл Рыбакоў. Усіх лаўрэатаў і тэмы іх прац немагчыма пералічыць на старонках „Нівы”. Кожны ўдзельнік конкурсу адзначаны быў ганаровым дыпломам, а пераможцы конкурсу ўзнагароджаны каштоўнымі і карыснымі прызамі. На заканчэнне ўрачыстасці ўдзельнікі і госці паслухалі багаты канцэрт дзіцячых і моладзевых калектываў з Беласточчыны.

Гран-пры атрымала праца Амэліі Міхальчук вучаніцы ПШ № 5 у Гайнаўцы ў катэгорыі малышоў 5-6 гадоў (пластычная праца) — палатняная лялька ў адмысловым доміку-кардонцы. На першым месцы апынуўся малюнак Зузанны Міранкевіч (Непублічны садок № 1 імя Дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску), на другім — Барташа Ігнацюка з Непублічнага садка для дзяцей з аўтызмам «Вясёлкавы прамень» у Беластоку, на трэцім — Дар'і Пятроўскай з Садка № 14 у Беластоку. Працы рыхтаваліся з бацькамі і настаўнікамі. Тут варта адзначыць настаўнікаў навучальных установаў, якія рыхтавалі сваіх падапечных — садка Гаўрыіла ў Бельску, Самаўрадавага садка № 14 у Беластоку, Комплексу школ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску, Пачатковай школы № 3 у Ганаўцы, ПШ № 2 з інтэграцыйнымі класамі ў Гайнаўцы, ПШ у Гарадку, ПШ у Навакорніне, Комплексу школ у Нараўцы, Комплексу школ з навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, Бельскага і Гайнаўскага белліцэяў, Гарадскога асяродка культуры, спорту і адпачынку ў Кляшчэлях. Варта таксама адзначыць спелыя літаратурныя працы — супольны твор Паўліны Дмітрук і Аляксандры Юрчук (ПШ № 3 у Гайнаўцы), Уршулі Марчук з КШ у Нараўцы і Юлі Пракапюк, Уршулі Падгаецкай з КШ № 3 у Гайнаўцы, Юліі Бяганскай з КШ з беларускай мовай у Гайнаўцы, Наталлі Васько з Гайнаўскага белліцэя, сачыненні Эвы Іванюк з КШ № 3 у Гайнаўцы, Барташа Ламашкевіча і Магдаліны Бляяўскай з КШ у Нараўцы. Самыя цікавыя працы маладых патрыётаў перш за ўсё малой айчыны пачаліся — ва ўзнагароду — публікавацца ў «Ніве», а з выбару мастацкіх прац і фотаздымкаў будзе створана адмысловая калекцыя, якая пасля апрацоўкі на большы фармат наведае навучальныя і культурныя ўстановы.

**(лук)**




Сёлетні год у Беларусі абвешчаны Годам культуры. Па вялікім рахунку, нейкае асаблівае адрозненне ад іншых гадоў у культурным дачыненні ўгледзець цяжка. Адзінае, чаго пабольшала — пустой чыноўніцкай балбатні на калякультурніцкую тэму. У той жа час многае можна было б зрабіць нават па папулярызацыі той жа беларускай мовы, напрыклад, у тэатральнай дзейнасці. Тым больш, што ёсць добрыя прыклады.

Калі цікаўны карыстальнік інтэрнэту зазірне на сайт Слонімскага драматычнага тэатра, што месціцца па адрасе **http://www.slonimteatr.by**, то яго ўразіць суцэльная тамтэйшая беларускамоўнасць. Сайт не мае нават аніякіх іншых моўных версій, акрамя беларускай. І гэта пры тым, што за апошнія дваццаць гадоў лукашэнкаўскія ўлады дасягнулі значнага поспеху ў вынішчэнні беларускай мовы, „на якой нельга сказаць нічога разумнага”, і толькі зараз, пасля ўкраінскіх падзей, пачалі, так бы мовіць, паварочвацца тварам да беларушчыны.

Сайт тэатра аформлены даволі сціпла, але строга і прыгожа. Абрамленае сіняй нібыта тэатральнай заслонай выяўленне змяшчае ўсю важную інфармацыю, якую трупа лічыць мэтазгодным прадставіць сваім патэнцыяльным гледачам.

На галоўнай старонцы месціцца фотаздымак галоўнага ўвахода ў тэатр, а таксама вітальныя словы да наведвальнікаў. Там распавядаецца, што тэатр існуе ўжо 26 гадоў. Такім пазначэннем уладальнікі сайта адразу заганяюць сябе ў так званую часавую пастку, бо 26 гадоў — гэта сёлета, і наўрад ці штогод гэтыя лічбы будуць мяняцца ў тэксце. Таму ёсць верагоднасць, што ўжо на наступны год на галоўнай старонцы сайта будзе змешчана недакладная інфармацыя.

„У рэпертуары Слонімскага тэатра спектаклі разнастайных жанраў: ад іранічнай мілай драмы да сучасных твораў. З ахвотаю ставяцца пастаноўкі, як паводле беларускіх, гэтак і замежных аўтараў, як класічная, гэтак і сучасная драматургія”, — распавядаецца ў вітальным тэксце.

Звесткі пра тэатральнае жыццё ў Слоніме цягам амаль двух з паловай стагоддзяў змешчаны на старонцы „Гісторыя”. „Першыя звесткі пра тэатральнае жыццё ў Слоніме адносяцца да XVIII стагоддзя, калі існаваў у 1744-1769 гадах Слонімскі школьны тэатр пры езуіцкім калегіуме. У рэпертуары тэатра пераважалі тады драмы на рэлігійныя, міфалагічныя і гістарычныя сюжэты”, — кажуць уладальнікі тэатральнага сайта. Паводле іх, вялікае значэнне мела ў Слоніме ў тым жа XVIII стагоддзі тэатральная трупа вялікага гетмана літоўскага Міхала Казіміра Агінскага. Яна была заснавана каля 1771 года, а спыніла сваю дзейнасць пасля 1791 года. У тэатры Агінскага працавалі прафесійныя італьянскія, нямецкія, польскія спевакі, мясцовы беларускі хор і балет.

Было тэатральнае жыццё ў Слоніме і ў гады нямецкай акупацыі 1941-44 гадоў, і амаль адразу пасля апошняй вайны. Дзяржаўны драматычны тэатр у горадзе пачаў дзейнічаць з 1 студзеня 1990 года. З яго рэпертуарам можна азнаёміцца на аднайменнай старонцы. З рэпертуару вынікае, што спектаклі ў слонімскім тэатры праходзяць на беларускай і рускай мовах як для дарослых, так і для дзяцей. Прычым для апошніх тэатральных пастановак было зроблена больш.

Рубрыка „Навіны” змяшчае паведамленні, датычныя слонімскага тэатральнага жыцця. Іх пакуль не вельмі многа і пачынаюцца яны ад сакавіка гэтага года.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з календара
Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

Кароткі век беларускага лекара



# 120 гадоў з дня нараджэння Браніслава Туронка

Беларускі грамадскі дзеяч, медык Браніслаў Туронак нарадзіўся 22 чэрвеня 1896 г. у фальварку Пестуны (Новапагосцінская воласць, Дзісненскі павет, цяпер Міёрскі раён). Паходзіў з праваслаўнай сялянскай сям'і. Туронкі выводзіліся з вёскі Дзянісы, там была іх прапрадзедаўшчына. Сям’я была беззямельная, арандавала фальварак. Навучаўся ў народным вучылішчы ў Новым Пагосце. У 1912 г. паступіў у Віленскую гімназію, дзе вучыўся, пакуль горад не занялі немцы. Далей вучыўся ў Віцебскай гімназіі, затым паступіў у гімназію расейскага Яраслаўля, якую скончыў у 1917 г. Пасля завяршэння гімназічнай адукацыі вярнуўся на Дзісненшчыну. Тут усталяваў цесны кантакт з беларускамоўным каталіцкім святаром Адамам Станкевічам, што паўплывала на светапогляд. Туронак заняўся арганізацыяй беларускіх школ. У 1917-1919 гг. настаўнічаў на Дзісненшчыне ў беларускіх пачатковых школах у Більдзюгах і Новым Пагосце.

У ліпені 1919 г. Браніслаў Туронак перабраўся ў Вільню. Спярша скончыў Віленскія беларускія настаўніцкія курсы. У тым жа 1919 г. паступіў у Віленскі ўніверсітэт на медыцынскі факультэт. Пасля заканчэння ўніверсітэта (1924) і двухгадовай практыкі Туронак атрымаў дыплом доктара лекарскіх навук (1926). У 1927-1928 гг. працаваў у Віленскай клініцы. У 1928 г. Туронак ажаніўся, пакінуў Вільню і пасяліўся ў мястэчку Дукшты на Браслаўшчыне, працаваў лекарам. У сям’і нарадзілася трое сыноў. Адзін з іх Юры Туронак пазней стаў вядомым гісторыкам, беларускім грамадскім дзеячам. Браніслаў Туронак меў вялікую бібліятэку з кніг і часопісаў. На жаль, яна згарэла ў час вайны ў 1944 годзе.

Яшчэ ў час вучобы ва ўніверсітэце Браніслаў Туронак далучыўся да беларускага студэнцкага руху. Уваходзіў у склад першай управы Беларускага студэнцкага саюза, быў адказным сакратаром выдання „Наш шлях”, якое выходзіла раз у месяц у 1922-1923 гг. У 1923 г. — у складзе новай управы БСС, таксама абраны сакратаром Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. У снежні 1923 г. стаў адказным рэдактарам газеты „Крыніца” і на гэтай пасадзе працаваў да жніўня 1925 г., калі за рэдагаваную газету, дзе размяшчаліся матэрыялы ў абарону выкарыстання беларускай мовы ў Каталіцкім касцёле, Туронак быў пасаджаны ў астрог і засуджаны да 3-месячнага турэмнага зняволення. Далейшая яго грамадская дзейнасць абапіралася на супрацу з Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй, найперш з Адамам Станкевічам. Туронак удзельнічаў у стварэнні Беларускага сялянскага саюза, уваходзіў у яго кіраўніцтва. З 1926 г. уваходзіў ва ўправу Віленскага аддзела Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, а ў 1927 г. быў абраны старшынёй управы і кіраваў аддзелам да вясны 1928 г. У снежні 1928 г. вылучаны кандыдатам на выбарах у польскі сейм, але пасольскага мандату не атрымаў. Займаўся папулярызацыяй аховы здароўя. Выступаў з артыкуламі па гэтай тэме ў газеце „Беларуская крыніца”. У 1928 г. яго навуковая праца „Гігіена ўзгадавання дзіцяці” выйшла асобнай брашурай.

Пасля 1928 г. Браніслаў Туронак адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці. Але да 1934 г. уваходзіў у кіраўніцтва БГіК. Падтрымліваў грашыма некаторыя беларускія выданні і грамадскія ініцыятывы.

Памёр Браніслаў Туронак вельмі рана, было яму толькі 42 гады. Да гэтага прывяла імклівая хвароба. Туронак ездзіў на маторнай лодцы да пацыента і моцна застудзіўся на возеры Дзісна.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Кошыкі Мікалая Сухадолы



Мікалай Сухадола нарадзіўся ў Падляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Тут рос і дапамагаў у працы бацькам земляробам. Бацька Захар быў здольным сталяром і будаваў хаты з бярвён. Рабіў вокны, ткацкія кросны, церніцы для ільну і канапель, маслабойкі, бочкі і... адмысловыя свісцёлкі. Умеў ды плёў кошыкі. Сын Мікалай меў у каго павучыцца гэтаму майстэрству.

Спадар Мікалай разам з жонкай пабудавалі сабе дом ды сельскагаспадарчыя будынкі і працавалі на 5-гектаровай гаспадарцы ў Падляўкове (у гэтай пушчанскай вёсцы пражывае 36 чалавек). У іх тры дачкі. Зараз Мікалаю Сухадолу 93 гады, але ён не расстаецца са сваім любімым заняткам — пляценнем кошыкаў і карзінак.

На калене выгінае моцныя ядлаўцовыя каблукі ды г.зв. рэбры кошыкаў. Кошыкі пляце перш за ўсё з палавінак яловых карэнняў, радзей бярэ для гэтага лазовыя галінкі. Яго кошыкі прыгожыя, кругленькія. Іх купляюць жыхары бліжэйшых вёсак, распалажоных па абодвух берагах ракі Нараўкі, ды Барысаўкі, Ласінкі і Нарвы.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## Дарэмнай чыгункай у Белавежу

Чыгуначную лінію Гайнаўка — Белавежа праклаў яшчэ цар-бацюшка. У пачатках III Рэчы Паспалітай цягнікі курсіравалі ў Белавежу кожныя дзве гадзіны. Зараз — раз у год. У 1994 годзе адмянілі рух цягнікоў, хоць чыгуначная інфраструктура не была надта кепская. У 2001 годзе Гайнаўскае старостава арганізавала аднаразовы праезд з думкай аднаўлення лініі. Дзякуючы хадайніцтву тадышняга начальніка Гайнаўскага аддзялення чыгуначнай эксплуатацыі Рамана Болбата і ўладальніка рэстарана «Царская» Міхала Дрынкоўскага ў 2007 і 2009-2011 гадах у рамках Дзён чыгуначнай тэхнікі ладзіліся лакальныя пікнікі ў Белавежы з адначасовым курсіраваннем рэйкавага аўтобуса (дарэмнага) з Гайнаўкі ў Белавежу. Арганізатарамі мерапрыемства былі Польскія чыгуначныя лініі ды Таварыства аматараў нацыянальнай культуры ў Чаромсе. Ходам даўнейшай традыцыі такое мерапрыемства адбылося сёлета — у суботу, 11 чэрвеня. Рэйкабус з Гайнаўкі адправіўся ў 10:50 загружаны пасажырамі (па меркаванні лідара «Чарамшыны» Барбары Кузуб-Самасюк падарожнічала каля 200 чалавек). На станцыі Белавежа-Таваровая на пляцоўцы, мяжуючай з рэстаранам «Царская», адбыўся лакальны пікнік. Можна было купіць гарачыя стравы і напіткі, а на вагоннай платформе, якая выконвала ролю сцэны, з канцэртам выступіла «Чарамшына». Публіка не падвяла, надвор'е таксама. Прыемна правялі адпачынак гайнавяне з белавежцамі на ўлонні натуры. Рэйкабус у зваротны курс адправіўся ў 14:50 і ў Гайнаўку прыехаў у 15:50. Гадзіннае падарожжа дазволіла падарожнікам налюбавацца чароўнымі колерамі пушчы, якія зіхацелі ў промнях чэрвеньскага сонца.

Уладзімір СІДАРУК

## І калісь было хуліганства

**Размова з Тамарай ЛЯЎЧУК, у дзявоцтве Пятроўскай, 1948 года нараджэння, жыхаркай Орлі, якая амаль дваццаць гадоў працавала кандуктарам на чыгунцы.**

Кандуктарам працавала я з 1977 да 1992 года, спярша выходзячы на рэнту, а пасля на пенсію. На працы пазнаёмілася са сваім мужам Пятром, які працаваў чыгуначным ахоўнікам. Пётр меў вызначаныя трасы, па якіх ездзіў. Калісь было больш таварных цягнікоў.

Як выглядала праца ў поездзе?

Зімою, калі занесла снегам, то дзе хоч стаялі, напрыклад паміж Старым Беразовам і Морам, каля Зімнохаў, у Падбеллі. Найбольш адлеглую трасу мела я ў Варшаву, ездзіла таксама ў Малкіню, Астралэнку, Седльцы. Працавала таксама на трасе паміж Гайнаўкай і Варшавай. Калі ехалі ў далейшыя трасы, мелі там месца для адпачынку, для начлегаў. Поезд абслугоўвалі дзве асобы: кіраўнік і кандуктар. Зараз на кароткіх трасах адзіночная абслуга.

Ці было бяспечна, ці здараліся інцыдэнты?

І калісь было хуліганства, напрыклад у поездзе між Беластокам і Люблінам кралі студэнтам заліковыя кніжкі і сумкі. З хуліганамі лепш было абыходзіцца далікатна, лепш было ўступіць, бо пасля маглі адпомсціць.

Ці былі нейкія льготы працаўнікам?

Давалі нам дванаццаць білетаў на год, па якіх можна было ехаць у любы маршрут. Для малалетніх дзяцей таксама давалі білеты. А пазней заміж білетаў увялі асабістыя пасведчанні, так як і цяпер. І плаціш толькі адзін працэнт цаны білета.

Калі Вы апошнім разам падарожнічалі поездам?

Амаль штомесяц еджу да брата ў Радам, гэта 108 кіламетраў за Варшавай. Зараз сучасныя паязды з праходам па ўсім саставе, месцы нумараваныя. Затое не відаць вагонаў з месцамі для ляжання і спальных вагонаў. Хіба што ў цягніках далёкага накіравання, за граніцу.

Ці ў цяперашні час лепш было б працаваць кандуктарам. У нас спынена курсіраванне многіх цягнікоў.

Цяпер кожны кандуктар мае мабільнік: пазвоніць і ведае які цягнік спазняецца, ці шмат пасажыраў чакае перасадкі.

Дзякую за размову.

Размаўляў Міхал МІНЦЭВІЧ

## 26.06 — 02.07

**(22.03. – 20.04.)** Да 30.06. не стаў нічога на адну карту, старайся не выбухаць. У ліпені ў жыцці ўсё будзе даволі добра. Добры час для далёкіх паездак, адпачынку і новых уражанняў. Можна заняцца бытавымі справамі і ўмацаваннем сямейных адносін. Можна смела спадзявацца на сваіх партнёраў як у бізнесе, так і ў асабістым жыцці. Тваіх сіл і творчай энергіі хопіць на ўсё.

**(21.04. – 21.05.)** 26-29.06. нічога перад табою не схаваецца. 25-30.06. нейкія важныя адносіны не стрываюць выпрабавання часу. Спакою ў ліпені чакаць не варта, будзе ўволю сямейных клопатаў і службовых задач.

**(22.05. – 22.06.)** У чэрвені шчасце табе спрыяе. Фінансы ў раўнавазе. У ліпені ніякіх асабліва значных падзей не прадказваецца. Жыццё будзе ісці сваёй чаргой. Варта пайсці ў адпачынак. Калі ж не атрымаецца, працягвай займацца пачатымі справамі, браўца за новыя праекты пакуль не варта.

**(23.06. – 23.07.)** 27.06. могуць цябе турбаваць праблемы і кепскія супадзенні. Да 30.06. менш нагод для кампанейскіх сустрэч, некаторыя весткі пра іх могуць да цябе не трапіць. Ліпень будзе напружаным перыядам. Цяжка будзе адстойваць свае інтарэсы як у бізнесе, так і ў асабістым жыцці. Давядзецца пазмагацца за сваё месца пад сонцам. Некаторыя справы лепш адкласці да лепшых часоў, каб не ўскладняць жыцця сабе і блізкім. Не выязджай далёка.

**(24.07. – 23.08.)** Да канца ліпеня круціся ў бізнесе, знойдзеш багатых і шчодрых супрацоўнікаў. Ліпень будзе напоўнены рознымі падзеямі. Задавальняйся тым, што прапануюць абставіны. Не варта пачынаць новага, лепш навесці парадак у старых справах і планах, каб вызваліць прастору для будучых заваёў і перамог. Каб не турбавала меланхолія, з'едзь куды-небудзь на адпачынак.

**(24.08. – 23.09.)** 26-30.06. маеш шанц наладзіць знаёмства, якое хутка стане сяброўствам. У ліпені поўна чаканняў перамен. Займіся складаннем планаў на будучыню. Будзе дастаткова сіл і энергіі для таго, каб актыўна дзейнічаць і ўвасабляць свае задумкі ў жыццё. Дабратворны ўплыў на агульны стан арганізма акажуць спорт і фізічная актыўнасць. Ліпень — выдатны час для змены іміджу і карэкцыі фігуры.

**(24.09. – 23.10.)** 28-30.06. узмацненне прафесійнага становішча і лепшыя фінансавыя перспектывы. У ліпені будзеш знаходзіцца ў пастаянным напружанні. Выключы са свайго жыцця лішнюю мітусню. У прафесійнай сферы прыйдзецца зрабіць нейкі сур'ёзны выбар.

**(24.10. – 22.11.)** Варта табе накіраваць сваю энергію на засваенне чужога вопыту. Пры гэтым не варта праяўляць залішняй цікаўнасці. Улічвай усе дробязі і ацані магчымыя наступствы сваіх учынкаў. Варта табе заняцца сваёй знешнасцю, змяніць імідж. Лепшыя твае саюзнікі — свежае паветра і заняткі спортам.

**(23.11. – 22.12.)** 27-28.06. — час калі можаш шмат зарабіць або выйграць вялікія грошы. У ліпені з'явіцца магчымасць трохі расслабіцца і прысвяціць свой час адпачынку, творчасці, каханню. Можаш адправіцца ў далёкае падарожжа. Не ўвязвайся ў фінансавыя авантуры і ў камандзіровачны раман, аднак глыбінных пачуццяў гэтая нядалая гісторыя не закране.

**(23.12. – 20.01.)** 28-30.06. сарганізуй гучную імпрэзу. У ліпені паўстане жаданне адначасова вырашыць некалькі спраў. Новыя сустрэчы і знаёмствы будуць чаргавацца з масай старых праблем. Хутчэй за ўсё нагадаюць табе пра нявыкананыя абяцанні. У ліпені Казярогі рызыкуюць упасці ў дэпрэсію.

**(21.01. – 19.02.)** 26-30.06. новае знаёмства можа набраць нечаканага імпэту. У ліпені не варта чакаць лёгкіх дзён. Прыйдзецца сутыкнуцца з аўралам на працы. Можа прыйдзецца адмовіцца ад канікул. Пасля будзе ўдала, будуць сустрэчы са старымі сябрамі, новыя знаёмствы, натхненне, сюрпрызы, авантуры, перамены ў жыцці.

**(20.02. – 21.03.)** 26-30.06. можа ў табе прачнуцца нейкі дрэмлючы ў табе талент. Хтосьці знаёмы запрапануе табе супольны інтарэс — згадзіся! Ліпень можа стаць лёсавызначальным перыядам, адбудуцца падзеі, здольныя кардынальна памяняць тваё жыццё. Загадзя рыхтуйся да выпрабаванняў. Перамены, хутчэй за ўсё, закрануць тваё асабістае жыццё. Зразумееш, што ўсё гэта толькі дробная бязладзіца. Аптымальны варыянт — правесці гэты час у спакойнай атмасферы.

Агата АРЛЯНСКАЯ

## Адгаданка

1. мацярык, 2. сыравіна для сена, 3. гарбата, 4. левы прыток Дзвіны і мястэчка пры іх зліцці, 5. нацягнутая на шырокі абруч густая сетка для хатнярга прасейвання, 6. тлум, вялікае зборышча людзей, 7. мальковы стыль спартыўнага плавання, 8. клятвеннае абяцанне, 9. Койданава.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | 2 | | | | | | | |
| | | | 3 | 4 | | | | | 5 | |
| | | | | | | | | | 6 | 7 |
| | | | | 8 | | | | | | |
| | | | | 9 | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 23 нумара**

Будзень, веер, губа, каза, кумір, маці, чыж, шарж.

Рашэнне: **Век чужымі рукамі жар заграбаць не будзеш.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Касіў Ясь канюшыну на Плянтах



■ Злева: Валянціна Ласкевіч, Люба Гаўрылюк, Ян Сычэўскі, Анатоль Вап і вядучыя

**Ужо ў трыццаць першы раз звабілі беларускі гоман і песня слухачоў Беластока, у чарговы ўжо раз у парк Плянты, пад фантаны, на свята беларускай культуры. Беларускія песні і творы захапілі сотні гледачоў. Былі таксама песні народныя, але і эстрадныя, у выкананні маладых, старэйшых і цалкам пажылых беларусаў Беласточчны. Арганізатар фэсту — Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якое сёлета адзначае шасцідзесяцігоддзе сваёй дзейнасці. У сувязі з гадавінай актывісты ўжо раней атрымалі ўзнагароду „Gloria Artis” ад прэзідэнта Польшчы за распаўсюджванне культуры. На свяце беларускай культуры на Плянтах былі яны ўдастоены ганаровых адзнак з рук Анатоля Вапа, дырэктара дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Падляшскай Маршалкоўскай управы. Адзнаку ад імя ўсёй арганізацыі прыняў Ян Сычэўскі, старшыня ГП БГКТ. Акрамя самой арганізацыі ўганараваны таксама шматгадовая сакратар БГКТ Валянціна Ласкевіч, а таксама нястомная аніматарка беларускага культурнага жыцця, спявачка, паэтэса, музыкант і вядучая калектываў Люба Гаўрылюк з Козлікаў.**

Ян Сычэўскі, які ўжо перадае рычаг Беларускага таварыства маладзейшым беларусам, прызнаўся са сцэны пасля ўручэння адзнак:

— Мы рабілі і робім усё, каб не маглі саромецца нашай беларускай нацыянальнасці, а маглі перш за ўсё ёю ганарыцца. Не ізалюемся ад іншых культур, дзейнічаем з іншымі культурамі ў дыялогу.

Віцэ-старшыня БГКТ Васіль Сегень, навуковы супрацоўнік Універсітэта ў Беластоку, нягледзячы на святочны настрой, панаракаў: «На працягу многіх гадоў, у нас ёсць тыя ж самыя праблемы. Хацелася б, каб наша дзейнасць і агульна культурная дзейнасць беларускай меншасці ў Польшчы была больш заўважаная ўладамі нашай краіны і падтрымоўвалася вартымі фінансавымі сродкамі. Можна паскардзіцца на нашы гарадскія беластоцкія ўлады і ваяводскія, якія побач з Міністэрствам унутраных спраў і адміністрацыі матэрыяльна падтрымлівалі мерапрыемства — шкада, што часцей, і не толькі з нагоды чарговых выбараў, яны не жадаюць паўдзельнічаць у нашых мерапрыемствах. Вельмі часта мы адчуваем сябе ў Беластоку як нежаданае дзіця, а мы ж з’яўляемся значнай абшчынай горада і рэгіёна. Хацелася б адчуць хаця б сімвалічную цікавасць з іх боку».

Слухачы, якія залілі плошчу каля фантанаў, цярпліва ва ўрэшце гарачым прамені чэрвеньскага сонца слухалі канцэрт, які працягваўся больш за тры гадзіны — выканаўцаў з Беласточчыны, спелых выканаўцаў узросту дзядоў, але і ўнукаў ды праўнукаў (у агульнай складанасці трыццаць выканаўчых груп), але і з Беларусі — з Пружан і Мінска, ведзеных вядомымі дзеячамі культуры. Іаанна Хількевіч прывезла калектывы «Ручнічок» ды «Вяночак» з бельскага комплексу беларускіх школ. Марта Грэдаль-Іванюк, якая сама была вядомай ад малечы спявачкай на беларускіх мерапрыемствах — калектыў «Лемонкі» з Гайнаўскага дома культуры (знакамітая там салістка Марыя Савіцкая, а з Бельскага белліцэя — Магдаліна Маліш). З Гайнаўкі прыехаў хор «Рэха пушчы», дзе спяваюць таксама дзеячы культуры на іншых палетках, такія як Вера Масайла. З Гарадка прыбылі старадаўні ды вечна малады «Расспяваны Гарадок» і юбіляр «Хутар», і слаўныя «Прымакі», без якіх не абыдзецца ніякае мерапрыемства на Беласточчыне.... Можна сказаць, што фэст быў гала-канцэртам «Беларускай песні», таму што можна было пачуць і пабачыць найлепшых выканаўцаў, якія гадамі не сыходзяць са сцэны і эстрады — хор «Крыніца» і «Каласкі» ды «Ас», «Калінку», «Гай» і «Лайланд» з Беластока, фолькавы ансамбль настаўніц з Беларускага садка № 14 «Світанак», з Бельска «Маланку» (з салісткай-паэтэсай Лідзіяй Маліноўскай) ды хор «Куранты», «Чыжавян» з Чыжоў, «Рэчаньку» з Козлікаў. Кожны са спевакоў выканаў па адным нумары, хаця размах і ахвота ў кожнага была пахваліцца цэлым канцэртам. Варта было! Напэўна поўную асалоду мелі слухачы і гледачы, услухоўваючыся і цешачыся мастацтвам спевакоў ды танцамі народнага ансамбля танца «Спадчына» і музыкальнай студыі песні і танца «Звёздачка» ў Мінску. На заканчэнне выступіла зорка канцэрта — легендарны гурт «Спадчына» з Мінска, дзе спяваюць таксама былыя сябры «Сяброў» — што чутна было і ў галасах, і ў аранжыроўцы вядомых песень, такіх як «Каляда», «Ручнікі» і «Касіў Ясь канюшыну». А на завяршэнне свята ўсе — і выканаўцы, і слухачы, устаўшы, грымнулі гімн «Люблю мой край, старонку гэту».





Янка Карповіч з гарадоцкага «Хутара» (які нядаўна адзначаў 15-годдзе, а сам музыкант і аніматар у культуры працуе больш за сорак гадоў) радаваўся: «Гэта вялікі прэстыж і гонар прысутнічаць на такім фэсце, дзе прыходзіць найбольшая публіка на Беласточчыне. І варта спаткацца з іншымі калектывамі, і чамусьці навучыцца ад калег з Беларусі, усе яны рыхтуюцца і выступаюць на вельмі высокім узроўні».

На фэсце можна было пацікавіцца таксама рукадзеллем майстроў з Беласточчыны і Гродзеншчыны, а таксама набыць кнігі, атрымаўшы таксама аўтографы ад прысутных аўтараў. Пры століках з народнымі вырабамі і кнігамі сустрэліся таксама даўно нябачаныя сябры са школьных гадоў, якія адмыслова выбраліся на свойскі, беларускі фэст, каб пабачыць сваіх ды нацешыцца беларускай песняй.

**(лук)**



■ Злева: Уладзімір Саўчук, Ян Чыквін, Лідзія Маліноўская, Віктар Швед



## Папраўка

У «Ніве» № 25 ад 19.06.2016 г. у артыкуле Іаанны Чабан «Пад паўстанчым крыжам» па віне рэдакцыі была дапушчана памылка ў ініцыялах імя аўтара цытаванай у тэксце кніжкі. Павінна быць: J. S. Bach, *Krynki 500 lat*. У Аўтаркі і чытачоў просім прабачэння.

**Рэдакцыя**

ISSN 0546-1960